Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых



1930

№ 4



Красавік

Год выданьня

Вясной.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## 7 новых заказьнікаў на Віцебшчыне.

### Пастанова НКЗ БССР.

Лютага 28 дня 1930 г. Народны Камісарыят Земляробства пастанаўляе: зацьвердзіць па Віцебскай акрузе на тэрмін 5 год, пачынаючы з 1 студзеня 1930 г. па 1 студзеня 1935 г. наступныя паляўнічыя заказьнікі:

#### I. Па Віцебскаму раёну.

У Віцебскім лясьніцтве Аўдзееўская дача агульнай плошчай 1148,26 гект. у наступных межах: ад в. Гралева шляхам да вёс. Сувары, потым па беразе Дзьвіны да зямлі гр. вёс. Буева (ці падрабязна: ад в. Сувары шляхам да в. Сухарэва, праз Грэбянецкі мост, потым шляхам на в. Жэлезьнякі да в. Жэлезьнякі, потым шляхам на в. Буева), далей шляхам на хутар гр. Сідарава, потым шляхам на в. Клішава, шляхам ад в. Клішава на в. Губаны, шляхам ад в. Губаны да рэчкі Безунь і ад гэтага мейсца па шляху на в. Стахоршчына, шляхам ад в. Стахоршчына да кутка 27-га квартала Аўдзееўскай дачы, па апушкам леса да в. Безуны, ад в. Безуны па шляху ў в. Алексюты, потым ад в. Алексюты па апушцы леса да в. Новікі, ад в. Новікі апушкай леса міма хутара гр. Есьпенка, Піскунова да в. Шабунь і далей да хутароў в. Гралева.

*Буцяжскі Мох* у быўшым Учанаўскім лясьніцтве агульнай плошчай 500 гект. у наступных межах: землі гр. в. в. Буцяжы, Лядзішча, Слабодка, Макаце, Ляпіха, Градзішча, Броўшчына (пад агульчай назвай Буцяжскі Мох знаходзяцца два ўгодзьдзі: Буцяжскі Мох і ўгодзьдзе Башлоўка).

*Аніскава* ў быўшым Учанаўскім лясьніцтве агульн. плошчай 1200 гек. у наступных межах: ад бальшака Віцебск—Сянно па шляху гр. м. Астроўнана межах вёсак: Хаміны, Тарэгі, Ваеводы, Кліша, Казіньнік, быўш. ім. Застарыньня, в. Замашэньне, Плісы, Пясочны-Буцяжы.

*Краснадворскі, Хамякоўскі і Глабордскі* мхі агульн. плошч. 1000 гект. у наступных межах: каля хутара Кабеляні, Чырвоны Двор, Якаўлева, Дворышча, Ваналокі, Тры Ніўкі, Глаборда Байдакі, Седаньне.

Усяго па раёну на плошчы 3848,26 *га*.

#### II. Па Сіроцінскаму раёну.

*Мерзлякоўскі Мох* Сіроцінскага лясьніцтва агульнай плошчай 800 гект. у наступных межах: ад Дабейскага возера каля в. Ільінцы па дарозе ў в. Мерзьлякі (у заказьнік уваходзяць угодзьдзі Чартоўка і Гарэлае) да Асінавага острава, потым па берагу Мха, па межах хутароў і пасёлка быўш. в. Мерзьлякі да дарогі з в. Мерзьлякі ў в. Гарадзішча па гэтай дарозе да Слабодзкай канавы (паміж вазёр Дабейскае і Мошна) канавай да Дабейскага возера каля в. Сьнежкава.

#### III. Па Сеньненскаму раёну.

*Кузьмінская дача* Сеньненскага лясьніцтва, агульнай плошчай каля 1500 гект. у складзе ўрочышча Мачулішча, гослесфонд Кузьмінская дача, уроч. Кацелева ў наступных межах: ад ракі Вобаль па палям гр. в. Утрынава, в. Шпікава, в. Кацелева, в. Зімковічы, в. Барок, в. Лесьнікава, в. Казадоі, в. Леванова, фальв. Кузьмінкі, быўш. ім. Кузьмінова, в. Целішчэ па шляху Утрыманава-Серкіці і па ручʻю Номайцяка да ракі Вобаль, па рацэ Вобаль да в. Утрыманава.

*Шубкі* Сеньненскага лясьніцтва агульн. плошча каля 1000 гект. усё уроч. Шубкоўскі Мох у межах палёў вёсак Сядрынка, Капланы, Моргі, па старому шляху ад Шубак на Паршні, в. Паршні, межы лясной дачы Лучынава-Паршнеўскай.

Наркамземляробства **Рачыцкі.**

Член Калегіі НКЗБ **Пятрушын.**

## Да ведама нашых падпісчыкаў.

**„Паляўнічы Беларусі“ з 1 сакавіка 1930 г. уваходзіць у Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Беларуская Вёска“.**

**Часопіс „Паляўнічы Беларусі“ будзе і ў далейшым выходзіць, як выходзіў да гэтага часу.**

**Усе заказы на часопіс разам з грашыма, за вылікам 5 проц. камісійных і за перасылку, а таксама скаргі на неатрыманьне часопісу, заявы аб зьмене адрасу надсылаць у Выдавецтва „Беларуская Вёска“ (Менск, Савецкая, 63).**

**На зьмену адрасу прыкладаць паштовымі маркамі на 20 капеек.**

**Уся падпіска на часопіс „Паляўнічы Беларусі“ будзе выконвацца з дню атрыманьня заказу.**

**Каб пазбавіцца скарг на неатрыманьне часопісу і ўрэгуляваць сваячасовую і акуратную дастаўку кожнаму падпісчыку, неабходна абмеркаваць на агульным сходзе паляўнічых раёнаў, каб часопіс „Паляўнічы Беларусі“ высылаўся праз бюро калектыву, якое і будзе выдаваць падпісчыкам.**

**Кожны падпісчык час. „Паляўнічы Беларусі“ павінен чытаць і выпісваць газ. „Бел. Вёска“, а таксама быць актыўным зборшчыкам падпіскі на яе.**

**Часопіс „Паляўнічы Беларусі“ № 3 за сакавік месяц разасланы 9—10 красавіка. Тым падпісчыкам, якія да гэтага часу не атрымалі №№ 1, 2 і 3, будуць ўзамен часопісу высланы кніжкі.**

**У далейшым падпіску трэба прымаць толькі з чацьвертага нумару.**

**Рэдакцыя час. „Паляўнічы Беларусі“.**

**Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Беларуская Вёска“.**

### Памылкі друку.

У № 3 у артыкуле „Да дню птах", на старонцы 9 у першай калёнцы, радок другі, зьнізу надрукавана: „... вялікія зямельныя плошчы", трэба чытаць: „... вялікія зялёныя плошчы". У калёнцы другой, радок 21 зьверху: „... сыч, у Палесьсі пралётам—сіпуха", трэба чытаць: „сыч, у Палесьсі апроч таго—сіпуха".

**Рэдакцыя.**

**ЗЬБЕГ** у пачатку студзеня ў раёне Заслаўя **ГАНЧАК,** англаарускі выжлец.

**Адзнакі:** чорная сьпіна, усе чатыры белыя лапы і кончык хваста, на грудзёх белая пляма.

**Просьба паведаміць „Белкоохотсаюз“.**

№ 4

ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

1930 году.

Штомесячная часопіс „Белкоохотсоюза“

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

На год . . . . . . 2 р.
„ 6 месяцаў . . . . 1 р. 20 к.
„ 3 месяцы . . . . 70 к.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 405.

ЗЬМЕСТ.



**ДА ВЕДАМА ЗБОРШЧЫКАЎ ПАДПІСКІ.**

**1, 2 і 3 нумары разышліся. У далейшым прымайце падпіску толькі на 9 месяцаў, в № 4.**

**РЭДАКЦЫЯ**

# Узьняць барацьбу за сацыялістычную працу.

29 красавіка—гадавіна сацыялістычнага спаборніцтва. У гэты дзень год таму назад партыя зьвярнулася з адозвай да ўсіх пралетарыяў, да ўсёй бядняцка-серадняцкай масы вёскі аб сацыялістычным спаборніцтве. Партыя заклікала ўвесь пралетарыят і працоўнае сялянства да сапраўднага ўдзелу ў сацыялістычным спаборніцтве па ўзьняцьці вытворчасьці працы, па найхутчэйшым выкананьні пяцігодкі. Зараз мы самы зьяўляемся сьведкамі таго, як сацыялістычнае спаборніцтва выклікала масавы ўздым творчых сіл пралетарыяту. У барацьбе за прамфінплян, у барацьбе за ўзьняцьце вытворчасьці працы і зьніжэньне сабекошту рабочая кляса высунула ў якасьці асноўнага свайго аружжа—ударніцтва, распаўсюдзіўшы яго з паасобных брыгад на цэхі і цэлыя заводы, на палі калгасаў і саўгасаў.

## Уключыць у сацспаборніцтва ўсю сыстэму.

Каапэрацыя ўсіх сыстэм, у тым ліку і паляўнічая, разгарнула сацыялістычнае спаборніцтва. „Белкоахотсоюз“ спаборнічае з Украінай і Азарбайджанам, акругі спаборнічаюць з акругамі, раёны з раёнамі, ячэйкі з ячэйкамі. Але-ж тут трэба адзначыць, што ня ўся яшчэ сыстэма ўключана ў сацыялістычнае спаборніцтва, што якасьць, вучот і кантроль над выкананьнем пунктаў сацспаборніцтва ня ўсюды пастаўлены добра.

Трэба зараз-жа ўключыць усю сыстэму ў сацыялістычнае спаборніцтва, трэба зрабіць сацыялістычнае спаборніцтва сапраўды аружжам па ўздыму творчасьці паляўнічых мас. Мэтадамі сацыялістычнага спаборніцтва неабходна ахапіць усе галіны будаўніцтва паляўнічай каапэрацыі.

Сацыялістычнае спаборніцтва заснована на самадзейнасьці саміх працоўных. Уцягваючы ў сацыялістычнае спаборніцтвы шырокія масы паляўнічых, мы гэтым самым забясьпечым якасны зьмест усёй нашай працы. Спаборніцтва за неадкладнее выкананьне ўсіх задач, якія стаяць перад паляўнічай каапэрацыяй: будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, ачышчэньне саюзу ад кулацтва і іншага варожага элемэнту, перанясеньне працы ў калгас, загатоўкі і г. д.—павінны быць у цэнтры ўвагі спаборнічаючых.

## Выкарыстаць вопыт рабочых.

У радах паляўнічай каапэрацыі шмат рабочых. Гэта частка паляўнічых мае вопыт сацспаборніцтва і ўдарніцтва заводаў і фабрык. Таму неабходна будзе скарыстаць іх вопыт. Неабходна арганізаваць пры акруговых і раённых таварыствах штабы, якія-б кіравалі сацыялістычным спаборніцтвам у акрузе і раёне.

Лепшых удзельнікаў сацыялістычнага спаборніцтва неабходна прэміраваць, заносіць на чырвоную дошку. Горшых, якія не жадаюць працаваць, заносіць на чорную дошку.

Барацьба за лепшую якасьць працы, за хуткасьць яе выкананьня, за сьвядомую дысцыпліну—павінна быць у цэнтры нашай увагі.

Наша задача—узьняць масы на барацьбу за сацыялістычную працу, за сацыялістычную грамаду.

# Трусік патрабуе ўвагі.

## Трусаводзтва павінна стаць сур'ёзнай галіной нашай прадукцыйнай жывёлагадоўлі, бо трусік—пастаўшчык першагатунковага мяса і каштоўнай хутры.

## „Дагнаць і перагнаць".

### Значэньне трусаводзтва.

Сацыялістычная прамысловасьць нашай краіны разьвіваецца з адначасовай перабудовай сельскае гаспадаркі, якая да гэтага часу адставала ад тэмпаў росту прамысловасьці.

Зараз сельская гаспадарка пераходзіць на новыя калектыўныя формы працы, для таго, каб поўнасьцю задаволіць патрэбнасьці прамысловасьці, для таго, каб яшчэ большым тэмпам ісьці да сацыялізму. Усё гэта вымагае ад нас шукаць новыя шляхі падняцьця нашае гаспадаркі на належную вышыню, новыя мэтады працы.

Адным з месц нашае гаспадаркі, на што мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу—гэта мясныя і мехавыя загатоўкі. Для задавальненьня ўнутранага рынку, а таксама павялічэньня вывазу на замежны рынак мясных прадуктаў і мехавой сыравіны, нам неабходна ўзмоцненым тэмпам разьвіваць у сваёй краіне трусаводзтва. Карысьці ад трусаводзтва шмат. Трус дае смачнае і сытнае мяса, добры мех і дарагі пух. Сродкі, укладзеныя ў трусаводзтва, хутка даюць гаспадарчы зварот. Асабліва карысна трусаводзтва для калгасаў, саўгасаў, камун і нават па асобных гаспадарак. Разводзіць трусоў можа і кожны рабочы ці служачы гораду. Ніводная жывёліна ня прыносіць столькі карысьці чалавеку, колькі трус. Пладнасьць і хуткасьць вырастаньня ставяць труса ў лік самых прадукцыйных і карысных жывёлін.

### Разьвіцьцё трусаводзтва ў розных краінах.

У былой царскай Расіі масавага трусаводзтва ня было. Ім займаліся толькі аматары. Працоўныя масы трымаліся царскім урадам у цемры, жабрацтве і не маглі займацца гэтай карыснай для сябе справай. У СССР да гэтага часу трусаводзтва было недаацэнена, але зараз мы маем вялікі рух за трусаводзтва і гэта справа ў бліжэйшыя гады можа разьвіцца да нябачных разьмераў.

За межамі трусаводзтва разьвілася ўжо даўно. Там трусамі харчуюцца цэлыя гарады, а на апрацоўках заняты арміі рабочых. У Лёндоне, напрыклад, ужываецца штодзённа адзін мільён тушак трусовага мяса. У Францыі і Бэльгіі насельніцтва вёскі ці гораду разводзіць ужо дзесяткі год трусоў і амаль штодзённа маюць магчымасьць есьці смачнае мяса трусоў. Амэрыка ўвозіць штогод у сваю краіну да 100 мільёнаў трусавых скурак. У Францыі, толькі ў буйнай прамысловасьці, занята 30 тысяч рабочых па апрацоўцы трусавых скурак.

### Карысьць ад трусоў.

Мяса трусоў смачней за курынае і ў $1^1/_2$ разы сытней. Яно ідзе як для прыгатаваньня гарачых харчоў, так і на каўбасы і кансэрвы. З труса вагой у 3-4 кгр. атрымліваецца да $^1/_2$ кгр. сала. Пух труса лічыцца лепшай сыравінай, з якой вырабляюць цёплыя добрыя рэчы: панчохі, капялюшы, шлёмы для лётчыкаў і г. д. З скур трусоў, якія нягодны на мех, вырабляюцца: замш, сподкі, абутак для дзяцей і інш. З лапак, вушэй і абрэзкаў скур вырабляецца клей. Кішкі ідуць на струны. Кал ідзе для ўгнаеньня гародаў і садоў. Такім чынам, мы бачым, што трус выкарыстоўваецца на ўсе 100 проц. А пладнасьць труса вельмі добрая—адна самка дае 30 трусоў прыплоду ў год.

Трусоў можна карміць усякімі адкідамі. Лепш за ўсё харчуюцца трусы сенам і сьвежай травой, зернямі—ячменю і аўса, жмыхамі, вотрубямі, караньплодамі, клубняплодамі, лісьцем дрэў, капусным лісьцем і інш. Даглядаць за трусамі могуць і дзеці. Выдаткі на гадаваньне трусоў з прыбыткам акупляюцца пры продажы трусоў ці іх мяса.

Абмяжоўвацца аматарскім разьвядзеньнем трусоў мы ня можам. Нам трэба шырока разгарнуць гэту справу па ўсёй БССР. Жыцьцё патрабуе новых, шпаркіх тэмпаў у справе трусаводзтва. Мы павінны ў самыя блізкія гады вызваліцца ад залежнасьці іншых дзяржаў і ня ўвозіць ад іх трусоў. Зараз па ўсяму СССР будуюцца трусятнікі для разьвядзеньня племяннога матэрыялу, атрыманы з якіх маладняк трэба накіроўваць у саўгасы, калгасы і інш. І ў справе трусаводзтва мы павінны дагнаць і перагнаць буржуазныя краіны, а гэта мы зможам зрабіць тады, калі кожны рабочы, калгасьнік, паляўнічы праявяць актыўнасьць у справе разьвядзеньня трусоў.

**Сільнікаў.**

## За цэнтралізацыю і пашырэньне трусаводзтва.

Адзінай сыстэмы, а таксама цэнтральнага кіруючага органу ў справе трусаводзтва ў БССР да гэтага часу няма. Трусаводзтвам займаюцца і жадаюць займацца некалькі арганізацый: Наркамгандаль, Дзяржгандльбел, Белсельтрэст, Малочна-Жывёлагадоўчы саюз і „Белкохотсаюз". Але кожная асобная арганізацыя робіць па-свойму, бо, як ужо сказана, адзінай сыстэмы ў гэтай працы няма. Усе гэтыя арганізацыі глядзяць адна на другую, як на канкурэнта.

Як-жа мяркуецца разьвіваць трусаводзтва кожная з гэтых арганізацый ў паасобку? Наркамгандаль і Дзяржгандльбел паставілі мэтай, як мага больш закупіць трусоў у БССР для продажу іх скурак і зусім мала цікавяцца, колькі трусоў ёсьць зараз, колькі застанецца і як яны ў будучым будуць памнажацца.

Белсельтрэст дабіваецца, каб яго трусятнік з 500 трусоў павялічыўся да некалькі дзесяткаў тысяч, а потым Белсельтрэст пачне кантрактаваць іх у саўгасы, калгасы і прыватным грамадзянам, а пакуль што будзе варыцца ў сваім уласным саку.

Малочна-жывёлагадоўчы саюз і „Белкохотсаюз" паставілі сабе мэтай, каб шпаркім тэмпам укараніць трусаводзтва ў калгасах і ячэйках паляўнічых, але пакуль што ня маюць досыць трусоў для гэтае мэты. Такім чынам дзьве дзяржаўныя ўстановы—Белдзяржгандаль і Белсельтрэст маюць трусоў, але нікому іх не даюць і прынцыпова не жадаюць даваць да таго часу, пакуль іх не разьвядзецца некалькі дзесяткаў тысяч. Жывёлагадоўчы саюз і „Белкохотсаюз" трусоў маюць зусім мала і магчыма ў дастатковай колькасьці ня будуць мець іх доўга, але за імі грамадзкасьць, праз якую яны могуць пашыраць і ўкараняць трусаводзтва.

Палітыка, праводзімая Белдзяржгандлем і Белсельтрэстам, бязумоўна, зьяўляецца памылковай, бо яны на гэту справу трацяць выключна дзяржаўныя сродкі. Трусаводзтва неабходна пашыраць, уцягваючы грамадзкасьць, яе сілы і сродкі. Гэтым мы дасягнем таго, што трусаводзтва пачне прывівацца ў гушчы працоўнага насельніцтва як вёскі, так і гораду.

Трэба адзначыць, што Наркамзем да гэтага часу быў супроць шпаркага разьвіцьця трусаводзтва. Напрыклад, „Белкохотсаюзу" ў гэтым годзе ўрад выдаў ліцэнзію на ўвоз трусоў з-за мяжы, а Наркамзем гэту ліцэнзію скараціў напалову і толькі, дзякуючы настойлівым вымаганьням фракцыі праўленьня „Белкохотсаюза" „згадзіўся" з ліцэнзіяй. Але дзякуючы гэтаму ліцэнзія спазьнілася на паўтары месяцы, а таму і трусы прыбудуць не раней чэрвеня, а так трусы, магчыма, былі-б увесну.

Каб паскорыць і палепшыць трусаводзтва, неабходна ў тэрміновым парадку ўтварыць кіруючы цэнтр, выпрацаваць больш падыходзячыя пад нашы ўмовы тыпы трусятнікаў для кожнай установы ці прадпрыемства ў паасобку: школа, калгас, саўгас, сталоўка, лячэбніца, працкалёнія, спраўдом, дзіцячы дом і сад, інтэрнат; дабіцца, каб у кожным двары, у кожнай кватэры, у кожным новым будынку былі пабудаваны трусятнікі як у гарадох, так і на вёсках. Чым хутчэй і лепш мы гэта зробім, тым хутчэй мы ўбачым вынікі дасягненьняў нашай працы.

**Р. С.**

# Першыя крокі.

Задача разьвядзеньня трусоў—новая. У нас гэта галіна сельскае гаспадаркі ня вывучана. Але маючы на ўвазе вялікае значэньне трусаводзтва для павялічэньня загатовак мехавой сыравіны, неабходна нашай каапэрацыі ўсіх напрамкаў пашыраць і разьвіваць трусаводзтва. Трусы даюць прыгожы і танны мех, на які зараз ёсьць вялікі попыт; а таксама вельмі смачнае і сытнае мяса. Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што трусаводзтва вельмі добра можа разьвівацца ў калгасах, саўгасах і камунах як падспорная гаспадарка. Там трусы могуць утылізаваць астачу расьлін і кораньплодаў.

Пастаўленая задача Савецкай уладай разьвіваць трусаводзтва на столькі важная, што правядзеньне яе ў жыцьцё павінна выклікаць спаборніцтва між асобнымі акругамі і раёнамі. Для правядзеньня ў жыцьцё гэтае задачы зараз неабходна: 1. Прыняць за аснову найбольш шпаркі, танны і надзейны мэтад мэтызацыі мясцовага матачнага матэрыялу з заводзкімі вытворцамі, адначасова разводзячы чыстую пароду і акліматызоўваючы яе. 2. Адбіраць і захоўваць лепшую частку матачнага матэрыялу ад прыплоду мясцовых беспародных і помесных трусоў. 3. Узяць на падлік і закантрактаваць увесь мясцовы і помесны матачны матэрыял. 4. Арганізаваць у раёнах выстаўкі трусоў. 5. Арганізаваць курсы. 6. Выдаваць спэцыяльную літаратуру і плякаты па трусаводзтву.

У сучасны, пачатковы пэрыяд разьвіцьця і насаджэньня трусаводзтва, з прычыны недахопу добра акліматызаванага племяннога матэрыялу і пры высокіх цэнах на яго, прамысловае таварнае трусаводзтва павінна на працягу бліжэйшых год разьвівацца, галоўным чынам, на падставе мэтызацыі беспароднага матачнага матэрыялу з племяннымі самцамі.

Маючы на ўвазе, што трусятнік Белсельтрэсту ў Сеньніцы (Меншчына) на працягу 1930 году выпусьціць 1500 племянных самцоў зьверх патрэбы, то ў мэтах выкарыстаньня іх неабходна некаму паклапаціцца аб загатоўцы ў парадку кантрактацыі для мэтызацыі 8.000—10.000 беспародных самак. Калі гэта ня будзе кім належыць зроблена, дык Белсельтрэст здасьць лішкі племянных трусоў гаспадаркам іншых рэспублік, якія зацікаўлены ў разьвядзеньні трусоў на сваёй тэрыторыі.

Неабходна ўжо ў гэтым годзе вызначыць мэтады работы ў адносіне выкарыстаньня трусовага мяса і яго перапрацоўкі і падыйсьці да пытаньня аб кантрактацыі трусовых скурак. Для гэтага трэба шырока апавясьціць трусаводаў зараней аб умовах кантрактацыі.

У дагаворы на кантрактацыю скурак належыць уключыць пункт для здатчыкаў аб абавязковым лягчаньні беспародных і мэтысных самцоў трусоў, што значна палепшыць таварную якасьць скурак.

Калгасы і бядняцка-серадняцкія пласты, моладзь і жанчыны павінны зьявіцца тым актывам у гэтай рабоце, на які нам неабходна абапірацца раней за ўсё і больш за ўсё.

**Ґалубчык.**

# Па прыкладу працоўных Захаду.

— Шкуркі трусоў, у каго ёсьць шкуркі трусоў?— на ўсе галасы пяецца кімсьці пад вокнамі рабочых кватэр гарадоў, гарадкоў і пасёлкаў паўночных і паўднёвых, заходніх і ўсходніх часьцей Францыі. Гэта гандляры шкуркамі трусоў робяць свой звычайны, штодзённы абход рабочых кватэр. І амаль у кожным доме, асабліва пасьля нядзелі ці якоганебудзь сьвяточнага дня, ён ня сустрэне адмоўнага адказу, з-за кожных дзьвярэй ён выйдзе зноў на вуліцу з адной, а то і з некалькімі новымі трусінымі шкуркамі пад пахай.

— Шкуркі трусоў, у каго ёсьць шкуркі трусоў?— зноў чуецца пявучы голас гандляра, які заціхае недзе ў аддаленьні.

А гаспадыні ў гэты час радасна падлічваюць срэбраныя манеты, а то і папяровыя грошы, атрыманыя ад продажу шкуркі труса. Добра сказаць— чатыры ці пяць франкаў за шкурку. Гэта амаль чвэртка штодзённага заработку яе мужа, гэта вялікая падмога ў жабрацкім бюджэце француcкага рабочага... І гэта за самую звычайную шкурку труса. А калі гэта шкурка ад заводзкага труса, калі яна вялікіх памераў, калі яна чыста чорнага ці беласьнежнага колеру,—тады і цана ёй куды большая. Любы гандляр дасьць за яе дзесяць, пятнадцаць, а то і больш франкаў.

І гэта толькі за шкурку. Але ўчора на абед было добрае трусінае мяса—мяккае, смачнае, сочнае. Яго з такім смакам уплятал і за абедзьве шчакі дзеці. Дарослыя таксама не адставалі... Мяса труса нічым ня ўступае ні па смаку, ні па спажыўнасьці другім мясным блюдам.

Але гэта яшчэ ня ўсё. З касьцей, пячонкі, сэрца і лёгкіх труса прыгатаўляецца добры паштэт, які таксама зьяўляецца добрым сьнеданьнем, пасьля цяжкай дзесяцігадзіннай працы.

Вось чаму ва ўсёй Францыі амаль кожная рабочая сям'я разводзіць трусоў, у кожнай такой сям'і ёсьць ня менш дзесяці гэтых карысных зьвяркоў.

Гэтае самае можна наглядаць і ў іншых краінах Захаду: у Нямеччыне, у Галяндыі, у Швэйцарыі. Усюды трусы карыстаюцца вялікім посьпехам, усюды яны служаць падмогай у гаспадарцы.

* * *

І гэта зусім зразумела. Нічога ня можа быць выгадней як разьвядзеньне трусоў. Кармленьне іх абыходзіцца дзёшава. Калі трусы яшчэ зусім маленькія ім трэба даваць крыху малака з хлебам, потым, калі яны крыху падрастуць—траву, сена, у невялікай колькасьці авёс. Але трус любіць чыстату, акуратнасьць. Памяшканьне, дзе знаходзяцца трусы, павінна быць чыстае, ня менш аднаго разу ў тыдзень у ім трэба мяняць салому, праветрываць яго. Калі-ж памяшканьне ня будзе чыстае, трусы пачнуць хварэць, сярод іх зьяўляюцца розныя хваробы, якія надзвычайна хутка зьнішчаюць увесь вывадак, ня гледзячы на яго велічыню.

А зараз падлічым. Добрая самка прыводзіць трусоў два ці тры разы ў год—кожны раз ад 8 да 14 штук. Значыцца ў год добрая самка можа даць у сярэднім ад 30 да 35 трусоў. 10—12 самак трымаць вельмі лёгка. А гэта значыць мець у год да 300—400 трусоў, якія даюць вам добраякаснае мяса і шкуркі якіх дзяржава можа ўтылізаваць у шмат якіх галінах вытворчасьці.

* * *

Краіна наша перажывае зараз часовыя цяжкасьці на мясным фронце. Таму пытаньне аб самым шырокім разьвядзеньні трусоў, пытаньне аб правільна арганізаванай гадоўлі трусоў зьяўляецца зараз вельмі важным. Калгасы і саўгасы, сяляне і нават гарадзкія рабочыя павінны па прыкладу пралетарыяў і сялян Захаду прыступіць да самага шырокага разьвядзеньня трусоў.

**Н. Б. П.**

# Да пытаньня разьвядзеньня дзічы.

Толькі 2—3 гады таму назад паляўнічыя арганізацыі СССР пачалі займацца разьвядзеньнем дзічы, ды і то ў малых разьмерах. Галоўная ўвага зьвернута на разьвядзеньне фазанаў, шэрых курапатак і цецярукоў. Наколькі мне вядома, у разьвядзеньні фазанаў, ня гледзячы на такі кароткі тэрмін, ёсьць значныя посьпехі і некаторыя паляўнічыя гаспадаркі пачалі разводзіць фазанаў з адзінак, а зараз маюць ужо да 200 птах, якія нясуць яйкі. Зацікавіліся гэтай справай шмат хто. Мэтады разьвядзеньня фазанаў не аднолькавыя: ёсьць гаспадаркі, якія падсадзілі фазанаў у асобныя паляўнічыя вучасткі, выводзячы, галоўным чынам, іх у вальерах. Некаторыя, пасьля кароткай, але неабходнай, высідкі ў часовых памяшканьнях, выпускалі фазанаў у паляўнічыя вучасткі, не пакінуўшы рэзэрваў у вальерах. Урэшце, некаторыя выпусьцілі фазанаў, атрыманых з іншых паляўнічых гаспадарак проста на волю.

Вядома, што вынікі ня ўсюды аднолькавы, але тым ня менш посьпех у разьвядзеньні фазанаў ёсьць.

Іншая справа з падсаджваньнем і разьвядзеньнем курапатак. Курапатка лепш акліматызавана ў нашай краіне, чым фазан і яе ня трэба вывозіць з-за мяжы ці з далёкіх ваколіц СССР. Паляваньне на курапатку—адно з найлепшых. І калі ў нашым пэрыодычным друку, да рэчы—вельмі бедным па пытаньнях разьвядзеньня дзічы, рабіліся спробы абгаварыць пачатак разьвядзеньня фазанаў, то курапаткі заставаліся ў цяньку.

Яшчэ менш абгаварвалася пытаньне аб магчымасьці разьвядзеньня і падсаджваньня ў правільных паляўнічых гаспадарках цецярука.

Што датычыцца курапатак, то мне здаецца, што арганізацыі, якія разводзяць фазанаў, дарэмна не зацікаўляцца гэтым пытаньнем. Курапатак упаўне можна разводзіць у паляўнічых гаспадарках.

Іншая справа з глушцом ды цецяруком. Карыстаючыся вялікім попытам разьвядзеньня дзічы нашых суседзяў—немцаў, мне здаецца, што засяліць імі некаторыя нашы паляўнічыя вучасткі ня ўдасца. Для гэтага там, дзе яшчэ плодзіцца гэта вельмі каштоў-

ная дзіч, трэба зрабіць такія ўмовы, пры якіх яна пратрымалася-б як мага больш.

Жаданьне бачыць на сваіх паляўнічых вучастках глушца і цецярука вельмі часта выказваюць як асобныя паляўнічыя, так і каапэрацыйныя арганізацыі.

Пры вырашэньні пытаньня аб штучным разьвядзеньні якой-небудзь дзічыны, трэба ўперад абмеркаваць, ці зможа гэта дзічына ў натуральных умовах таго вучастку, дзе мяркуецца яе разводзіць, пладзіцца і множыцца. Таксама трэба рабіць і пры вырашэньні пытаньня аб магчымасьці падсаджваньня глушца і цецярука.

Глушэц і цецярук, таксама як фазан і курапатка, зьяўляюцца курынымі птахамі. Аднак біолёгічныя іх вымаганьні іншыя.

Глушэц выбірае вялізарныя, густыя суцэльныя лясы, не баючыся перасякаючых іх балот.

Цецярук пераважна выбірае асобныя, выспавыя, бярозавыя і асінавыя рэдкія лясы, пералескі і не гняздуецца ў суцэльных лясох. Пасьля лясных пажараў глушэц перасяляецца ў некранутыя месцы, а цецярук на такіх пажарышчах, якія хутка зарастаюць кустамі і травой, добра гняздуецца, хутка множыцца і не пакідае гэтых месц. Калі праз 10—20 год гэтыя пажарышчы зноў зарастаюць густым суцэльным лесам, цецярукі пакідаюць іх, а на іх месцы плодзяцца глушцы.

Вядома, што глушцу і цецяруку неабходны жвір і пясок, почкі лістоў, хвоя і трава. Яны вельмі любяць мурашнік. У часы такаваньня глушэц амаль што выключна харчуецца сасновай карой, а цецярук больш почкамі бярозы. Абодвы яны любяць асіну, нават лепш, чым бярозу. Узімку-ж харчуюцца, галоўным чынам, почкамі дрэў і травой, якая дзе-ні-дзе не засыпана сьнегам. Аднак для іх абавязкова павінны быць ягады. Там, дзе ягад мала, ні глушцы, ні цецярукі ня трымаюцца і зьнікаюць разам з зьнішчэньнем ягаднікаў. Найлепшымі ягадамі для іх зьяўляюцца журавіны, брусьніцы, чарніцы і інш.

Можа сказаць, што там, дзе растуць чарніцы, можна заўсёды знайсьці глушца і цецярука, там-жа, дзе растуць брусьніцы, яны будуць абавязкова. Для глушца найлепшыя месцы—высокі, густы лес, для цецярука—рэдкія пералескі, балоты. Абедзьве гэтыя



Лясны красун.

птахі баяцца шуму і таму мясцовасьць не павінна быць густа заселенай.

Брусьніцы на вучастках, на якіх мяркуецца пасадзіць глушца ці цецярука, маюць вялікае значэньне. На брусьніцах кветкі зьяўляюцца два разы ў год і ў жніўні, разам з пасьпеўшымі ягадамі, зьяўляюцца новыя кветкі. Ад гэтых кветак на зіму застаюцца непасьпеўшыя ягады, якія вельмі любяць глушцы і цецярукі. Чарніцы вельмі хутка сьпеюць, абсыпаюцца і не даюць другіх пладоў, а таму не зьяўляюцца зімовым кормам. Позна ўвосень і ўзімку цецярукі зьбіраюцца ў вялікія стаі. Такія стаі можна сустрэць усюды, дзе на гальлі яшчэ вісяць другія ягады брусьніцы. Калі ягады зьедзены, птахі зноў зьнікаюць.

Гэтыя абставіны, а таксама і тое, што лес то зьнікае, то зноў вырастае на вялікіх абшарах і зьяўляецца галоўнай прычынай „цыганскай натуры“ цецярукоў. Ён вандруе па неабходнасьці. Таксама і ў гарыстых краёх, дзе цецярукі часта дасягаюць найбольшай вышыні горных хрыбтоў і апускаюцца да сенажацяй горных рэчак і там яны харчуюцца ягадамі, вераскам і бярозавымі почкамі.

Лічачыся з тэй асаблівасьцю, што лясныя курыныя птахі баяцца культуры і



У разгары вясны.

вымагаюць выключна спрыяючых умоў у адносіне харчоў, трэба ведаць, што падсаджваньне глушцоў і цецярукоў у паляўнічых гаспадарках, якія знаходзяцца ў густа заселеных мясцох—справа цяжкая і няверная, хоць-бы там раней гэтыя птахі і пладзіліся.

Зьнікаюць гэтыя птахі часьцей за ўсё не выпадкова, а толькі дзякуючы зьмене ўмоў жыцьця і флёры. Таксама зьменай флёры тлумачыцца і перасяленьне гэтай каштоўнай дзічы на іншыя вучасткі, хоць-бы ўсе апошнія ўмовы жыцьця для іх і ня былі-б тут.

Для птахі ня так небясьпечны драпежныя зьверы і птахі, як чалавек і яго сельска-гаспадарчая і лясная культура, якая зьнішчае натуральныя спрыяючыя ўмовы, турбуе вывадкі, зьнішчае травы, ягады, грыбы. Вопыт хатняга разьвядзеньня глушцоў і цецярукоў пакуль не ўдаецца. У сучасны момант робіцца вопыт з падкладваньнем яек цецярукоў і глушцоў у гнёзды фазанаў і гадаваньне іх на волі. Але пакупка яек вельмі марудна. Апроч таго гадаваць птушанят лясной дзічы цяжка. Мы ведаем вельмі мала аб іх жыцьці і выплоджваньні ў дзікім стане бо ня можам назіраць за гэтым. Захаваць дарослую птаху ў здаровым стане, калі яна папала ў рукі чалавека, можна на доўга, але вырасьціць птушанят хатнім парадкам ніяк не ўдаецца. Разьвядзеньне фазанаў і курапатак параўнаўча з разьвядзеньнем глушцоў і цецярукоў зьяўляецца лёгкай забавай.

Як вядома, вопыты з разьвядзеньнем лясной дзічы ў большасьці выпадкаў цярпелі няўдачу, за выключэньнем гістарычнага прыкладу Шотляндыі. Мабыць там існавалі выключна спрыяючыя ўмовы для гэтай дзічы і, мусіць, гэта краіна сама па сабе засялілася глушцамі і цецярукамі, калі-б між ёй і іншымі краінамі, дзе яны плодзяцца, не ляжала-б мора.

Таму нельга пакладацца на разьвядзеньне і падсаджваньне глушцоў і цецярукоў нават у правільных паляўнічых гаспадарках цэнтральнай паласы РСФСР і БССР, не гаворачы ўжо аб Украіне.

Фазан-жа і курапатка стануць некалі пераважнай дзіччу ў шмат якіх паляўнічых гаспадарках нашае краіны.

**М. Зубароўскі.**

# Саджа.

У Кіргіскім стэпу і Арала-Касьпійскай вобласьці жыве цікавая птаха, якая спэцыяльна прыстасавана па сваёй прыродзе да жыцьця ў пустыні. Гэта—саджа ці, інакш, капытка.

Птаха гэта велічынёй з галуба. Колер яе пясковы. Харчуецца расьлінамі на пяскох і саланчаках. За межамі Савецкага Саюзу саджа сустракаецца ў паўночнай Пэрсіі, Манголіі і Даўрыі.



Саджа.

Цікава гэта птаха тым, што яна часта перасяляецца далёка ад сваёй радзімы. У гады масавага вандраваньня саджа ляціць на Ўсход да Ціхага акіяну, а на Захад—да Атлянтычнага і зьяўляецца ва ўсіх краінах Эўропы. Мусіць яна ляціць і далей, і гіне ў хвалях Атлянтычнага акіяну. У часы гэтага вандраваньня былі выпадкі нават гнездаваньня саджы ў такіх далёкіх краінах, як Англія. Аднак, урэшце, усе вылецеўшыя за межы сваёй радзімы птахі гінуць. У нас саджа далятае да берагоў Белага мора.

Залёты саджы ў Эўропу наглядаюцца не заўсёды ў аднолькавай ступені. Аднак, перасяляецца саджа на Захад часьцей, чым звычайна некаторыя думаюць. Але з тае прычыны, што яна ня прытрымліваецца вядомых шляхоў пералёту птах і ляціць часта невялікімі статкамі, то яе не заўважаюць наглядальнікі. На паўднёвы ўсход эўрапэўскай часткі Саюзу саджа ў невялікай колькасьці залятае амаль штогодна.

Ня толькі ня выяўлена прычына залёту саджы ў Заходнюю Эўропу, але і ў нас у СССР гэту біолёгічную асаблівасьць саджы заўважыць не ўдалося. А таму пажадана, каб усе выпадкі зьяўленьня саджы па-за межамі яе радзімы, у прыватнасьці ў БССР, былі дакладна адзначаны ў друку.

Праф. Ю. Гэкалі ў сваёй працы*) над пэрыодычнымі зьявішчамі ў жыцьці жывёлы спыняецца на вандраваньні саджы і паказвае на існуючую ў гэтым зьявішчы нібы адзінаццацігадовую п э р ы о д ы ч н а с ь ц ь. Трэба агаварыцца, што прыняты пад увагу толькі вялікія, усім вядомыя, масавыя перасяленьні.

Такія адбыліся ў 1887, 1908, 1919 гадох. Такім чынам згодна тэорыі праф. Гэкалі перасяленьне саджы павінна зноў адбыцца ў бягучым 1930 годзе.

Зьвяртаючы ўвагу таварышоў паляўнічых на гэтую цікавую птаху і на магчымасьць залёту яе да нас у гэтым годзе, нагадваю, што аб усіх выпадках зьяўленьня ці здабычы саджы трэба, на карысьць навукі, паведамляць саюз паляўнічых або зоолёгічны музэй Беларускай акадэміі навук. Усе экзэмпляры саджы належыць накіроўваць туды-ж. **А. Р. Штам.**

*) „Harper's magusire" 1928 г.

# Змагайцеся з шкоднікамі паляўнічай гаспадаркі.







У Маскоўскім заолёгічным садзе..

Якая розьніца між паляўнічай гаспадаркай і тым станам, у якім у сучасны момант яна знаходзіцца.

Пачну з прыкладаў. Перад намі лес, поле, кусты і іншыя мясьціны, якія могуць быць аб'яднаны ў цэлую невялікую паляўнічую гаспадарку. Скажам, што ў гэтых мясьцінах да пачатку адчыненьня паляваньня ёсьць 100 зайцаў.

Пры тых умовах, якія зараз існуюць, усе гэтыя зайцы ў законныя тэрміны і законным спосабам могуць быць павыбіты, бо ніхто дакладна ня ведае, колькі ўсяго ёсьць тут зараз зайцаў. Ніхто ня ведае падліку зайцаў, а таксама і паляўнічых, якія тут палююць.

У правільнай паляўнічай гаспадарцы гаспадары—паляўнічыя ведаюць, што на тэрыторыі іх гаспадаркі ёсьць каля 100 зайцаў. Гэта вядома таму, што быў зроблены падлік, апроч таго рабіліся назіраньні. Гаспадары ведаюць нават больш: з іх, з гэтых 100 зайцаў, 20 старых і 80 маладых, народжаных сёлета. Яны нават могуць ведаць, што сярод гэтых зайцаў ёсьць вядомая колькасьць, ну, скажам, 10 хворых зайцаў ці халастых зайчых, гэта значыць не пладавітых, якіх для карысьці паляўнічае гаспадаркі трэба адстраляць у першую чаргу.

З вопыту, які накопіцца за некалькі год, гаспадар-паляўнічы будзе ведаць, колькі зайцаў загіне ад драпежнікаў. Пакінуўшы некаторы процант зайцаў на ўсякія непрадугледжаныя выпадкі, а таксама ў якасьці вытворцаў для будучага году ў запасе яны вызначаюць тую колькасьць зайцаў, якую можна будзе ўзяць сёлета на паляваньнях.

Такое гаспадараньне павінна быць у арганізаванай гаспадарцы, якой у нас пакуль няма. Арганізаваць паляўнічую гаспадарку, г. зн. знайсьці тыя арганізацыйныя формы, пры правядзеньні якіх можна было-б спадзявацца на разьвіцьцё паляўнічае гаспадаркі. Думаю, што ня так шмат шляхоў да вырашэньня гэтага пытаньня. У мінулым нумары я выказваў сваю думку па гэтаму пытаньню.

Зараз зьвярну ўвагу паляўнічых на другое. Усякі паляўнічы ў арганізаванай паляўнічай гаспадарцы ведае (ці будзе ведаць), якая вялікая колькасьць паляўнічай зьвярыны і птушак заўсёды гіне ад драпежнікаў. У паляўнічага будуць дакладныя лічбы на руках і ён будзе прымаць усе меры для аховы. Але пры існуючым становішчы паляўнічае гаспадаркі—без падліку дзічы і пры безадказным паляваньні—шмат паляўнічых ведаюць, што шкодзяць паляўнічай гаспадарцы ня толькі браканьеры, а ў большай меры драпежныя зьвяры ды птахі.

У гэтым напрамку значэньне драпежных птах звычайна павялічана. Драпежных птах, якія шкодзяць нашай паляўнічай гаспадарцы—мала. Гэта галоўным чынам ястрабы—перапялятнік і куратнік, балотны лунь і вароны. Іншыя шкодныя драпежнікі сустракаюцца даволі рэдка і шкоды для паляўнічай гаспадаркі на Беларусі прыносяць вельмі мала.

З драпежных зьвяроў шкодзяць паляўнічай гаспадарцы ліс, воўк, рысь і ўсе прадстаўнікі сям'і куніц—гарнастай, ласка, тхор і інш.

Урэшце да шкодных адносяцца сабакі ды каты. На іх я і спынюся некалькі падрабязьней.

Перш на-перш трэба сказаць, што большасьць паляўнічых ня ўлічвае той вялікай шкоды, якая наносіцца паляўнічай гаспадарцы бадзячымі сабакамі ды катамі.

Ліс, воўк і іншыя драпежнікі, калі яны ловяць дзіч, павінны саблюдаць яшчэ некаторыя перасьцярогі, каб не папасьці пад стрэльбу паляўнічага самім—гэта і служыць перашкодай да зьнішчэньня імі дзічы. Той, хто бачыў ліса, „на паляваньні“ ведае, як асьцярожна ён вядзе сябе пры гэтым:

выйдзе, панюхае, паслухае. Сабакі ды каты на паляўнічых вучастках адчуваюць сябе зусім інакш, чалавека яны не баяцца.

Хто бачыў бадзячага сабаку ці ката ў лесе „на паляваньні“, той разумее, якую шкоду прыносяць яны паляўнічай гаспадарцы. Па сваёй драпежніцкай прыродзе і інстынкту яны нападаюць на ўсіх, хто слабейшы за іх.

Гінуць ад іх, галоўным чынам, зайцы, маладыя козы, а з птах на працягу гнездавога пэрыяду амаль-што ўсе, пачынаючы з дробных пявуноў і канчаючы глушцом. Зьнішчаюцца як матка, так і яйкі. Галоўная шкода бадзячых сабак і катоў адносіцца да вясны і лета, пакуль маладыя зьвяркі не падрастуць, а птахі не падымуцца на крылы.

Вядома ня ўсе бадзячыя сабакі і каты ў аднолькавай меры драпежныя, бо не ва ўсіх іх аднолькава разьвіты нюх, ня ўсе яны спрытны, каб злавіць зьвера ці птаху. Але ўсе яны аднолькава шкодны ў тым сэнсе, што імі парушаецца спакой дзічы, і парушаецца куды мацней, чым несьвядомым паляўнічым.

*Бадзячыя сабакі і каты* зьяўляюцца страшэннымі драпежнікамі для паляўнічай гаспадаркі—гэта трэба памятаць кожнаму паляўнічаму. Апроч таго галоўным чынам бадзячыя сабакі і каты распаўсюджваюць шаленства—асабліва сабакі.

На гэтых драпежнікаў і трэба зьвярнуць галоўным чынам увагу як паляўнічым, так і санітарнаму нагляду.

Якія-ж сабакі і каты зьяўляюцца бадзячымі?

Гэта перш за ўсё сабакі, якія ня маюць гаспадароў. Яны перабіваюцца з дня ў дзень, чым папала. Жывуць каля жыльля чалавека, харчуюцца па памыйных ямах. Гэтыя сабакі рэдка прыносяць шкоду паляўнічай гаспадарцы, бо вельмі слабы для таго, каб злавіць вольнага зьвера ці птаху. Але яны вельмі небясьпечны ў сэнсе распаўсюджаньня шаленства і некаторых іншых хвароб.

Другая катэгорыя—гэта сабакі кепскіх і нядбайных гаспадароў. Апошнія іх кепска кормяць, таму сабакі прымушаны шукаць сабе харчоў самастойна.

Вось гэтыя сабакі і складаюць, галоўным чынам, армію шкоднікаў паляўнічае гаспадаркі. Жывуць гэтыя сабакі пад абаронай свайго гаспадара, ведаюць свой двор, часта маюць спэцыяльную будку. Ідуць з сваім гаспадаром у поле ці ў лес, ходзяць за скацінай, наогул адчуваюць сябе вольнымі, але карміцца павінны самі. „Сабака—ня конь, ня якім можна працаваць, і не карова, якая дае малако, таму ня трэба карміць. Захоча есьці, дык знойдзе сабе харчы паза дваром“. Такі спосаб харчаваньня сабакі карысны для гаспадара, таму ён і не зьвяртае ўвагі на „паляўніцкія здольнасьці“ свайго вартаўніка.

Гэты спосаб харчаваньня надворных сабак нажаль шырока распаўсюджаны ў нашай вёсцы і нават добры для свайго сабакі гаспадар рэдка корміць яго.

Урэшце ёсьць сабакі, якія займаюцца зьнішчэньнем дзічы не для пракармленьня, а па прыродзе сваёй. Такія сабакі (галоўным чынам ганчакі) добра ўтрымліваюцца і не галадуюць, а займаюцца зьнішчэньнем дзічы і зьвера для ўталеньня паляўніцкага палу. Гэтыя сабакі вельмі небясьпечны для паляўнічай гаспадаркі, бо неўлавімы. Днём яны звычайна ляжаць ля двара дзе-небудзь, а як толькі настане змрок, накіроўваюцца на свае аблюбёныя месцы на „паляваньне“. Ганяюць сваю здабычу такія „спэцы“ звычайна масьцерскі.

Такім чынам найбольшая маса бадзячых сабак зьяўляецца, галоўны чынам, бяспрытульнымі, а не бесгаспадарчымі. Яны маюць і гаспадара і двор, а становяцца бадзячымі і шкоднымі толькі па віне і нядбайнасьці гаспадара.

Каты-ж ня вельмі прывязаны да чалавека: яны больш любяць хату, чым свайго гаспадара. Каты, ловячы мышэй пераносяць сваю дзейнасьць і за межы хаты, двара, і становяцца там „у прыродзе“ вельмі шкоднымі для паляўнічае гаспадаркі з тае прычыны, што зьяўляюцца яшчэ больш драпежнымі, чым сабакі. Асабліва шмат гіне ад іх птах.

Для сьвядомага паляўнічага відавочна, што бадзячыя сабакі ды каты зьяўляюцца вялікай пагрозай для паляўнічае гаспадаркі, і што трэба спыніць урэшце бадзяньне гэтых шкоднікаў на паляўнічых вучастках.

Як-жа зрабіць гэта?

Правілы ўчыненьня паляваньня (зацьверджаныя НКЗ БССР 12-X—1927 г.) гавораць па гэтым пытаньні наступнае:

1) „Разрешается охота на бродячих собак и кошек в открытое для охоты время законными способами и в закрытое время всякими способами, кроме общеопасных“ (арт. 10.)

2) „Бесхозяйственные собаки и кошки, обычно рискающие по угодьям, причисляются к вредным животным и подлежат истреблению в течение круглого года“.

*Примечание.* Сторожевые собаки должны содержаться на дворе и выводиться только на поводке (привязи) или в наморднике. Все собаки, рискающие вне пределов двора без намордников, подлежат истреблению при всех условиях (во всех случаях) всякими способами за исключением отравы, как способа общеопасного“.

„В районах сильного размножения волков разрешается иметь собак при стадах на привязи“ (арт. 13).

Гэтыя параграфы даюць вялікія правы паляўнічым для абароны паляўнічае гаспадаркі (калі-б імі толькі карысталіся арганізаваным парадкам). Трэба сказаць, што такой фармулёўкі нідзе ў паляўнічых правілах іншых рэспублік няма. І ўсё-ж гэтага мала!

Па-першае, гэтыя правілы ёсьць толькі ў паляўніцкіх правілах, якія вядомы выключна толькі паляўнічым. Насельніцтва-ж, а асабліва мясцовая ўлада сельская ў штодзённых умовах жыцьця іх ня прызнае і ведаць не жадае. І калі хто з паляўнічых заб'е ў лесе бадзячага сабаку, то хай сьцеражэцца, каб не забілі яго ганчака.

Трэба, каб гэтыя каштоўныя параграфы былі абавязкова ўключаны ў агульныя законы, у дэкрэты і абавязковыя пастановы і шырока пашыраліся сярод

# Ацэнка якасьцяй вытворцаў.

Мы ўжо пісалі, што не заўсёды свае высокія якасьці сабакі перадаюць свайму патомству і ставілі пытаньне аб прычынах гэтага нярэдкага зьявішча ў практыцы сабакаводаў. У артыкуле „На шляхох сабакагадоўлі" мы разьбіралі памёты маскоўскіх чэмпіёнаў амаль усіх парод лягавых сабак і не знайшлі ў іх нічога ўдалага. Прычыны гэтага зьявішча могуць быць дасьледваны ў трох напрамках: 1. Або гэтыя чэмпіёны—кепскія вытворцы. 2. Або ім не па заслугах давалі ўзнагароды. 3. Або іх не змаглі выкарыстаць як вытворцаў.

Прыступаючы да разьвязаньня гэтых пытаньняў, агаворымся, што найлепшым правільным спосабам разьвязаньня мы павінны лічыць такі спосаб, які грунтуецца на навуковых довадах аб насьледственнасьці, г. зн. генэтыцы.

Заснавацелем генэтыкі зьяўляецца вучоны Грэгар Мендэль, які па сканчэньні факультэту фізыкі і натуральных навук пачаў займацца вывучэньнем перадачы насьледственных якасьцяй сярод расьлін. Для досьледу ён выбраў адзін з відаў гароху, гарошыны якога былі зялёнымі. Пасадзіўшы ў градкі, ускопаныя побач, зялёны і жоўты гарох, Мендэль, у часы расквітаньня гароху, заплодніў жаночыя палавыя органы зялёнага гароху пылком ад жоўтага гароху і наадварот, інакш—злучыў між сабой гэтыя два віды гароху, каб паглядзець, якія будуць памёты (гібрыды).

Калі гарох пасьпеў, Мендэль сарваў стручкі і дасьледваў іх, пры чым знайшоў, што ва ўсіх стручкох як ад зялёнага гароху, так і жоўтага гарошыны былі зялёныя, ня гледзячы на тое, што Мендэль прымаў самыя дакладныя меры супроць магчымасьці самаапылкаваньня гароху. Сабраўшы ўвесь ураджай, Мендэль рашыў зноў пасадзіць, каб узнаць куды падзеліся гарошыны жоўтай афарбоўкі, бо ён, як чалавек вучоны, ведаў, што нічога ў сьвеце, ня выключаючы і натуральнае афарбоўкі, не прападае бясьсьледна. У гэтым выпадку зьнік той пігмэнт, дзякуючы якому гарошыны ўяўляліся намі жоўтымі.

Калі вырасшы памесны гарох Мендэль сабраў і вылушчыў, то ўбачыў, што прыблізна на тры зялёных гарошыны адна была жоўтая, г. зн. калі ў стручку было ўсяго 4 гарошыны, то 3 было зялёных, а 1—жоўтая. Мендэль паўтарыў вопыты па прыметах афарбоўкі, павязаўшы зялёны з чырвоным і г. д. Вынікі атрымаліся такія: у першым пакаленьні ўсе гарошыны былі зялёнай афарбоўкі, а ў другім—ад гібрыдаў *) зялёнага з жоўтым, чырвоным і інш.—на тры гарошыны зялёных пападалася абавязкова адна жоўтая, чырвоная і г. д., г. зн. той афарбоўкі, з якой вязалася зялёная гарошына.

Такія досьледы Мендэль рабіў 15 год падрад, прычым адначасна падпадалі досьледу і іншыя відавыя адзнакі гароху.

Мендэль дакладна сартаваў і адбіраў вынікі сваіх пасеваў, рэгістраваў іх і мог, дзякуючы гэтаму, па заказу вырасьціць любы від гароху, нават такі, якога яшчэ ня было ў прыродзе.

У выніку гэтых досьледаў сам сабой атрымаўся, вывад, што ўсе прыметы, складаючыя аблічча або агульны выгляд якога-небудзь арганізму, падзяляюцца на прыметы, якія перадаюцца патомству і якія прападаюць, хаваюцца ў патомстве. Першыя Мендэль назваў дамінуючымі, а другія—рэцэсіўнымі.

Значыць, калі мы злучым самца і самку, дык да іх дзяцей пяройдуць дамінантныя прыметы абодвых бацькоў. Напрыклад, мы маем сабаку наступных прымет: шэрая (домін.), сьветлае вока (рэцэс.), хвост кручком (домін.), шэрсьць доўгая (рэцэс.), і сучку—цыманонавая, (рэцэс.), цёмнавокая (домін.), хвост просты (рэцэс.), шэрсьць кароткая (домін.), то ўсе шчанюкі іх будуць шэрыя, цёмнавокія, хвост кручком, шэрсьць кароткая.

Гэта зьявішча—дамінаваньне прымет у першым пакаленьні (у дзяцей) устойлівае; усе арганізмы, якія плодзяцца праз палавыя органы, падпадаюць гэтаму закону, які называецца законам дамінаваньня прымет.

А ці ведаюць гэты закон масы сабакаводаў? Адказ адзін: каб ведалі, то даўным даўно, яшчэ спачатку паляваньня, а паляваць чалавек стаў яшчэ ў першабытным стане, прыглядаліся-б да вытворцаў пры злучцы, маглі-б зараней сказаць, якія прыметы, а значыць і ўвесь агульны выгляд будуць мець шчанюкі ад пары гэтых вытворцаў.

**Ю. Румянцаў.**

*(Працяг будзе).*

*) Памёты.

---

мясцовага насельніцтва *). Толькі тады можна спадзявацца на пасьпяховае правядзеньне іх у жыцьцё.

Апроч таго ў якасьці абавязковай меры для вырашэньня пытаньня аб утрыманьні сабак лічу вельмі неабходным увядзеньне ўсеагульнага падатку і аднačасовай рэгістрацыі сабак.

Падатак павінен быць невялікім, але ён ва ўсякім выпадку павінен дасягаць такой сумы, каб прымусіць адмовіцца ад трыманьня сабак тых гаспадароў, якія не даглядаюць сваіх сабак і якім яны не патрэбны. Толькі такім чынам можна ўпарадкаваць пытаньне аб дваровых сабаках і аб іх утрыманьні.

Абавязковая рэгістрацыя і падатак павінны праводзіцца і ў адносіне да катоў, тым больш, што яны наогул ня вельмі патрэбны ў гаспадарцы, асабліва ў сельскай, і іх заслуга па вылаўліваньні мышэй павялічана.

Зараз вярнуся да таго, з чаго пачаў. Чытач не зразумее, чаму я, разглядаючы шкоднікаў паляўнічае гаспадаркі, закрануў пытаньні арганізацыйныя.

А вось чаму. У арганізаванай паляўнічай гаспадарцы гаспадары-паляўнічыя не дадуць драпежнікам так шкодзіць, як яны шкодзяць усюды зараз, у неарганізаванай гаспадарцы. Паляўнічыя змогуць улічыць і ступень і характар шкоды і прымуць своечасовыя меры. А такія меры, калі яны праводзяцца па пляну і па сыстэме, будуць дзейнымі.

Гэта пытаньне трэба зрушыць з месца. Лічу яго настолькі важным, што для яго вырашэньня трэба было-б выклікаць на сацыялістычнае спаборніцтва ня толькі акруга акругу, а і рэспубліка рэспубліку.

**А. Р. Штам.**

*) Правілы аб паляваньні апублікаваны ў „Бюлецені" СНК БССР за 1927 г. № 17 і зьяўляюцца законам для ўсяго насельніцтва БССР і ўлады на мясцох.

# Бязьлітасна ўдарым па недахо

## Зьмяніць адносіны да стралковага спорту.

Калі мы ў апошнія гады дасягнулі значных посьпехаў у рабоце па будаўніцтву паляўнічае каапэрацыі і гаспадаркі, дык у стралковом спорту ў нас і дагэтуль пануе старая практыка. У гэту галіну нашае работы зусім ня ўцягнуты шырокія пласты працоўных—рабочыя, сяляне, асабліва моладзь. З году ў год на стэндах выступаюць у акругах, а тым больш у цэнтры, адны і тыя-ж асобы, абвешаныя жэтонамі і забіраюць, вось ужо на працягу 5 год, прызы. Атрымліваецца такое ўражаньне, нібы стралковыя спаборніцтвы наладжваюцца для таго, каб раздаць узнагароды тым асобам, якіх за год да спаборніцтваў ужо ведаеш. Такое зьявішча трэба кваліфікаваць, як спаборніцтва бяз удзелу шырокіх мас у стралковай справе. Яно паказвае на тое, як ня трэба праводзіць стралковыя спаборніцтвы.

Тут неабходна зрабіць рэвалюцыю. У нашых арганізацыях павінны быць самыя спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця стралковага спорту, інакш і далей гэтая справа будзе заўсёды цягнуцца ў хвасьце работы па паляўнічай гаспадарцы. Мы павінны ведаць, каго ўцягваць у работу па стралковаму спорту. Тут з клясавай установкі спэўзаць нечага. Наадварот, больш, чым на іншых вучастках працы, навокал стралковага спорту трэба арганізоўваць і актывізаваць рабочую масу батрацтва, вясковую беднату, калгасьнікаў і асабліва моладзь. Трэба паклапаціцца і аб працоўных жанчынах!

Стралковы спорт павінен разьвівацца ня ў Менску і Віцебску, а наадварот—у вёсцы, у калгасах, саўгасах, на прадпрыемствах. Мы павінны дапамагчы нашай нізоўцы арганізаваць стралковыя сэкцыі на мясцох, папулярызаваць ідэю стралковага спорту, дабіцца таго, каб у ім прымалі ўдзел ня толькі паляўнічыя, а і калгасьнік, батрак, вясковая моладзь, наогул пралетарская маса гораду і вёскі.

Зараз аб стэндах. Іх мала, яны не абсталяваны, працуюць неакуратна. На стэндах недастаткова зброі, патронаў для выпадковых наведвальнікаў.

На наш погляд праўленьне „Белкаахотсаюза“ павінна тэрмінова зьмяніць свае адносіны да стралковага спорту як унутры самаго саюзу паляўнічых, так і аб набліжэньні яго да нашае пралетарскае грамадзкасьці. Тое-ж самае трэба зрабіць акруговым і раённым таварыствам.

Пастаноўка пытаньня аб набліжэньні і ўкараненьні стралковага спорту ў пралетарскіх масах зусім своечасовая і гэту задачу мы павінны вырашыць.

**І. Дакудаўскі.**

## „Памылка друку“.

Праўленьне Полацкага таварыства 26 лютага разглядала заявы Русецкіх аб прыёме іх у сябры паляўнічых і вынесла пастанову: „У прыёме адмовіць, пакуль ня будзе абагулена ўся маемасьць у калгасе і падана даведка ад калгаса“.

Калі полацкаму таварыству паказалі на гэту памылку і патрабавалі выпраўленьня яе, Полацкае таварыства стала бюрократычна адпісвацца, замазваць сваю памылку. „Бачыце,—пішуць полацкія праўленцы,—пры друкаваньні пратаколу ўкралася памылка—прапушчана адно слова „вытворчая“ пасьля слова „ўся“, г. зн. „пакуль ня будзе абагулена ўся вытворчая маемасьць“.

Па думцы праўленцаў тут няма ніякага пакрыўленьня партыйнай лініі, а ёсьць толькі „памылка друку“.

Другі прыклад. Камісія па партыйнай чыстцы праўленьня Мазырскага т-ва выявіла ў працы т-ва рад скрыўленьняў партыйнай лініі, бесгаспадарчасьць, сувязь з прыватнікам і інш. Камісія выключыла з партыі члена праўленьня—загадчыка магазынам Шнэйдэра. Рэвізійная камісія т-ва пасьля абсьледваньня ўсё гэта пацьвердзіла. Таксама своечасова сыгналізавала аб гэтых недахопах і часопісь „Паляўнічы Беларусі“ і нават занесла „Мазахоту“ на чорную дошку. Праўленьне „Белкахотсаюзу“ выключыла Шнэйдэра з складу праўленьня і зьняла з працы.

Але замест таго, каб зараз-жа выправіць свае памылкі, Мазырскае праўленьне т-ва паляўнічых занялося бюракратычнай пісанінай, абвінавачваньнем таварышоў, якія рабілі абсьледваньне ў „ганеньні“ на т. Шнэйдэра, як на яўрэя. (?) І, каб „не абідзець“ сумленнага працаўніка т. Шнэйдэра, пастанавіла „аслабаніць яго ад працы“.

Такім чынам праўленьне Мазырскага т-ва паляўнічых ня толькі ня выправіла сваіх памылак, а і старалася замазаць іх.

Такая мяккацеласьць, сямейственнасьць пагубна адбіваюцца на працы нашай каапэрацыі. Трэба з коранем вырваць гэтыя балячкі, улічыць памылкі і рашуча, пабальшавіцку выпраўляць іх.

**С.**

## Суд слаба змагаецца з браканьерамі.

Суровасьць 125 арт. КК, караючая за зьнішчэньне каштоўных зьвяроў, як дзяржаўнае маёмасьці, суд ужывае яшчэ слаба. Гэта, галоўным чынам, залежыць ад таго, што суд, разглядаючы справу аб браканьеры, грунтуецца на „несьвядомасьці“ апошняга.

Але-ж ёсьць другі закон, які гаворыць, што ніводзін грамадзянін ня можа спасылацца на няведаньне савецкіх законаў і нясе кару поўнасьцю за зробленыя ім злачынствы.

Паляўнічым вёскі Ігнатаўка Клімавіцкага раёну Багушовым Гарасімам была забіта выдра, скуру якой

# пах, галавацяпах і бюракратах.

ён імкнуўся прадаць прыватніку за 76 руб. Злачынства было выкрыта. Суд Клімавіцкага раёну прысудзіў Багушова на два тыдні прымусовых работ.

У пачатку лютага ўдарнай брыгадай гораду Клімавічы выпадкова знойдзена скурка бабра. Аб зьнішчэньні выдры ў мінулым годзе апавядалася на старонках часопісі „Паляўнічы Беларусі". Але злачынца гэты зусім аслабанён аб пакараньня. У 1928 годзе быў забіты бабёр, скура якога прададзена спажывецкай коопэрацыі. Прыказчык гэтае крамы аштрафаван на 20 руб.

Усе гэтыя факты сьведчаць аб тым, што браканьеры зьнішчаюць каштоўных зьвяроў, маёмасьць народнае гаспадаркі, якая ахоўваецца законам, а судовыя органы больш заклапочаны тым, каб апраўдаць браканьера, чым пакараць яго.

Нам трэба дабіцца таго, каб законы ўраду аб паляўнічай гаспадарцы, як часткі ўсяе нашае гаспадаркі, выконваліся судовымі і іншымі органамі. **С.**

## Пагоня за галоўкамі...

Усім вядома, што браканьеры наносяць шмат шкоды паляўнічай гаспадарцы. Усім вядома і тое, што браканьеры бываюць, галоўным чынам, з кулакоў, якіх выкінулі з нашае каапэрацыі, і якія захавалі стрэльбы. А таму для барацьбы з браканьерамі паляўнічая каапэрацыя прымае належныя меры. Напрыклад, кожны паляўнічы пры здаваньні пушніны павінен паказаць свой білет на права паляваньня. І гэта робіцца нашымі загатоўчымі пунктамі. Але ня так глядзіць Белдзяржгандаль. Яму давай галоўкі, хвасты, і крышка...

З гэтае прычыны некаторыя раённыя калектывы паляўнічых вынесьлі на сваіх агульных сходах пастановы, каб кожны паляўнічы здаваў пушніну толькі сваёй каапэрацыі.

От тут і пайшла пагоня за галоўкамі...

23 лютага ў бюро Межанскага калектыву паляўнічых зьявіўся агент Белдзяржгандлю і патрабаваў ад старшыні т. Ермачонка адмены пастановы агульнага сходу паляўнічых аб здачы пушніны толькі сваёй каапэрацыі, пагражаючы, што справу гэту перадасьць у пракуратуру. Тав. Ермачонак паведаміў зайздроснага агэнта, што ня мае права адмяняць пастаноў агульнага сходу паляўнічых. Тады Віцебскае аддзяленьне Белдзяржгандлю зьвярнулася з такой прапановай да Віцебскага акруговага таварыства паляўнічых, але і там атрымала такі самы адказ.

Трэба растлумачыць агэнтам Белдзяржгандлю, што мы ідзем усе разам да адной мэты, да падняцьця нашае ўсяе гаспадаркі на належную вышыню, да сацыялізму і калі агэнты Белдзяржгандлю будуць нам дапамагаць, а ня шкодзіць у зьнішчэньні браканьераў, якія, як ужо казалася, вельмі шкодзяць нашай гаспадарцы, то мы хутчэй дасягнем гэтае мэты.

**Нечага гнацца за галоўкамі ды хвастамі.** Нечага пакрываць браканьераў, якім „Белкахотсаюз" аб'явіў вайну.

**Кошка.**

## За таварам прыходзіцца езьдзіць.

Калі параўнаць працу Горацкага райбюро Аршанскай акругі з працай год-два назад, дык яна ва ўсіх галінах значна палепшылася. Зараз калектыў наш яднае 222 паляўнічых. Перарэгістравалася да 1-І-30 г. 80 проц. Ня зусім добра паляўнічыя наведваюць сходы—усяго на 60—65 проц. Па чыстцы саюзу выкінута толькі 12 асоб. Гэта адразу паказвае на тое, што яшчэ трэба чысьціцца.

У 1929 г. арганізавана ў раёне 5 ячэек, але працуюць яны пакуль кепска. Кіруе ячэйкамі райбюро дрэнна, а акруговае таварыства гэтым ня цікавіцца.

Наш калектыў па цэлым шэрагу пытаньняў выклікаў на сацспаборніцтва Расьнянскі і Дубровенскі калектывы яшчэ ў 1929 г. Расьнянскі—дык хоць адгукнуўся на нашу прапанову, а Дубровенскі і па сёнешні дзень маўчыць. Тут адразу відаць, што акрпраўленьне ня цікавіцца сацспаборніцтвам, не правярае, як яно праходзіць.

Горацкае райбюро перайшло на гаспадарчы разрахунак. Адчынена крама. Дзякуючы гэтай краме амаль-што ўся пушніна ў нашым раёне была загатоўлена райбюро. Пасьля пераходу райбюро на гаспадарчы разрухана́к ёсьць 200 рублёў прыбытку, якія трэба скарыстаць на адчыненьне паляўнічых куткоў пры калгасах і на іншыя культурныя патрэбы.

Перашкодай у працы крамы служаць кепскія адносіны з акрпраўленьнем. Прыходзіцца ехаць за таварамі ў акрпраўленьне, што павялічвае выдаткі. Гэты недахоп трэба зьнішчыць і тавары ў Горкі пасылаць своечасова.

**ЯН.**

## Паперы выцьвілі.

У Багушэўскім раённым калектыве Аршанскай акругі раней была хоць якая-небудзь праца, а зараз і ў раёне, і ў сельячэйках даўно ўсе паперы выцьвілі ад доўгага ляжаньня. Ды і ячэйкі ня ўсюды арганізаваны, а калі і арганізаваны, дык імі ніхто ня кіруе, бо некаму. Старшыня райбюро т. Казачонак, працуючы непасрэдна па камітэту ўзаемадапамогі, зусім ня цікавіцца працай калектыву паляўнічых. Дысцыпліна ў калектыве адсутнічае. Культработы не вядзецца ніякай. Узносы на самалёт „Паляўнічы Беларусі" браліся пад прымусам бяз усякай растлумачальнай працы. Браканьераў разьвялося шмат, а барацьбы з імі ніякай не вядзецца. Загатоўка пушніны ішла самацёкам.

**Русак.**

# Выміраньне жывёлы.

У Амэрыцы вельмі зацікавіліся апублікаванымі артыкуламі Г. Дж. Масінгэма, які праракае „канец эры жывёлы—сысуноў“ (млекопитающих). Па думцы Масінгэма колькасьць жывёлы, даступнай для экспляатацыі чалавекам, зьмяншаецца з кожным годам. Усё вастрэй становіцца крызіс мяхоў і скур. Разам з тым значна бяднее першачарговая, вельмі багатая крыніца харчавых прадуктаў. Нават дацкія і амэрыканскія малочныя каровы-рэкордысткі ня могуць замяніць дзікіх табуноў, што пасьліся ў вялізарнейшых нашых паўднёвых стэпах. Недалёк той дзень, калі і Захаду, па прыкладу Ўсходу, прыдзецца абыходзіцца бяз буйнага рагатага ската амэрыканскіх прэрый. Аднак, у сучасны момант прымаюцца гэраічныя меры па падняцьці сусьветнае жывёлагадоўлі. Вядома, што зусім нядаўна ўся Канада пакрылася сеткай гадавальнікаў для серабрыстых лісаў і іншых каштоўных пушных зьвяроў. Па прыкладу Канады ўзяліся за гэту справу Германія, Францыя, Швэйцарыя і іншыя эўрапэйскія краіны. Калі гэтыя гадавальнікі задавальняюць мяхамі багатую буржуазію, то ў сучасны момант у Канадзе прыступлена да пабудовы пунктаў для штучнага разьвядзеньня бізонаў, што павінна задавальняць патрэбы шырокіх пластоў насельніцтва.

Нямнога знойдзецца жывёлы, якая-б падпадала такому драпежнаму зьнішчэньню як амэрыканскі бізон. Калісьці ён запаўняў прэрыі, а ў апошнія дзесяцігодзьдзі і ў Паўночных Штатах стаў ня меншай музэйнай рэдкасьцю, як і дзе-небудзь у заолёгічных садох Эўропы. Ня так даўно яшчэ паляваньне на бізона было адзінай крыніцай існаваньня для шмат якіх паўночна-амэрыканскіх індзейскіх плямён. Для аднаго паляўнічага патрэбна было 2—2,5 кгр. бізонавага мяса ў суткі, а здаралася так, што выразаліся толькі найбольш лепшыя часткі тушы: крыжавіна і язык, а ўсё апошняе гінула як непатрэбнае.

Аднак, ня гледзячы на такое драпежніцкае вядзеньне паляўнічае гаспадаркі, колькасьць бізонаў у прэрыях не зьмяншалася, бо натуральны прырост на волі быў настолькі вялікі, што паляваньне на бізонаў, якое ўчынялася сотнямі тысяч індзейцаў, расьсеяных на вялізарнай плошчы сучасных З. Ш. і Канады, пакрывалася ім. Але, як толькі зьявіліся белыя прышлыцы, бізоны сталі зьнішчацца тысячамі і вельмі хутка ад вялізарных табуноў гэтай найлепшай жывёлы застаўся адзін толькі смутны ўспамінак.

Яшчэ 20 год назад Канадзкі ўрад у законадаўчым парадку правёў рад мер для абмежаваньня паляваньня на бізонаў і захаваньня тых бізонаў, якія ў невялікай колькасьці засталіся. У 1925 годзе пачалі штучным парадкам павялічваць колькасьць бізонаў. Увесь прыплод бізонаў у тысячы галоў з Нацыянальнага парку Вэнврайт быў пераведзены ў больш новы запаведнік—так званы Лясны парк Буфала, у межах Паўночна-Заходняй тэрыторыі.

У сучасны момант канадзкімі зьвераводамі ўзьнята пытаньне аб штучным разьвядзеньні каменнага казла, які плодзіцца ў скалістых гарах. („Н. і Т.“ № 1. 1929 г.).

---

## Шагавік „агітуе“ за калгасы.

Старшыня Хойніцкага райбюро калектыву паляўнічых тав. Шагавік замест таго, каб павесьці растлумачальную працу сярод паляўнічых аб уступленьні ў калгас раптоўна, бяз ведама іншых членаў бюро, вынес пастанову і разаслаў па сельсаветах аб адабраньні стрэльбаў ад усіх паляўнічых, якія ня ўступілі ў калгас.

Наогул т. Шагавік павінен пакінуць сваю ўстаноўку кіраваць райбюро асабіста, бяз удзелу большасьці членаў бюро.

Такая ўстаноўка кепска адбіваецца на рабоце. Возьмем хоць-бы пасеўкампанію. Раён калектывізуецца, а райбюро зусім не падрыхтавалася да правядзеньня гэтай важнай справы ў жыцьцё, апроч „аглушыцельнага“ адабраньня стрэльбаў у каго ня сьлед. А індывідуальна абкладзеныя кулакі і да гэтага часу лічацца паляўнічымі і трымаюць стрэльбы.

Райбюро павінна выправіць памылку. **З...**

## Запаздалыя дырэктывы.

Да нас (Багушэўскі раён) распараджэньні акруговага таварыства пастулаюць з вялікім спазьненьнем. Напрыклад: пастанова пленуму праўленьня аб працы па калектывізацыі яшчэ не атрымана. Кулакі ў нас выключаны, праўда, але выключаны ня пры перарэгістрацыі, а па пастанове праўленьня. Дырэктывы аб нявыдачы паёў выключаным кулакам і канфіскацыі ў іх стрэльбаў яшчэ няма.

Райбюро даваліся паказаньні ў міліцыю, у каго трэба адабраць стрэльбы, але міліцыя гэтага ня выканала. Міліцыя адбірае стрэльбы ў сялян, якія незаконна трымаюць іх, і прадае іх па сваей ацэнцы без удзелу прадстаўніка саюзу паляўнічых.

Быў выпадак прыняцьця ў саюз кулака Бігая з Сеньненскага раёну нашым райбюро. У сацыялістычным спаборніцтве Багушэўскае райбюро ніякага ўдзелу ня прымае. Дакладнага падліку па катэгорыях палаўнічых няма.

**С-оў.**

## Сацспаборніцтва на паперы.

Слуцкі калектыў паляўнічых выклікаў усе раёны Бабруйскае акругі на сацспаборніцтва. „Разагнаўся“ ён, як кажуць, ня ў меру. Ды толькі „сацспаборніцтвам“ нічога не дасягаецца, бо дагавору ні з адным калектывам не заключана, а таму і працы няма.

**Былінка.**

---

## Як рэагуюць на заметкі, зьмешчаныя ў часопісі „Паляўнічы Беларусі“.

○ Па заметцы „У нас кепска“, зьмешчанай у № 1 „Паляўнічы Беларусі“ за 1930 год у Бешанковічах адчынена хата-чытальня. Карэспандэнт нам піша: „Літаратуры хапае, але сьвету мала ў нашай хаце-чытальні“. Трэба і сьвету дадаць.

○ Горш за ўсіх рэагуюць на заметкі акруговыя таварыствы і раённыя бюро калектываў, якія так ці інакай датычаць з іх дзейнасьцю.

○ Некаторыя таварышы і ўстановы, апроч таго думаюць, што рэдакцыя, зьмясьціўшы артыкул ці заметку, павінна абавязкова прысылаць выразку часопісі, інакай—нібы іх гэта і не датычыць і на заметку не адказваецца. Трэба зьнішчыць такія зьвішчы.

○ Па заметцы „Судзьдзя, забясьпечаны асьветай“ Віцебская акруговая пракуратура рэдакцыю паведаміла, што справа гэта апратэставана Акруговым судом у касацыйным парадку і будзе разглядацца нанава.

○ Асабліва ўпарта маўчыць „Белкохотсаюз“, які да гэтага часу ня ставіць на пасяджэньні праўленьня тыя пытаньні, што закранаюцца ў часопісі адносна яго працы.

# Абменімся вопытам.

## Урэшце сталі працаваць.

1 красавіка адбылося пасяджэньне сэкцыі паляўнічае гаспадаркі „Белкохотсаюзу“. На гэтым сходзе абгаварваўся плян працы сэкцыі, пытаньне арганізацыі заказьнікаў па Менскай акрузе, устанаўленьне аб'ектаў пушных загатовак па Беларусі на 1930-31 г. і аб Усебеларускай сельска-гаспадарчай выстаўцы.

Абгаварэньне пляну працы сэкцыі заняло столькі часу, што ўсе апошнія пытаньні былі перанесены на другое пасяджэньне.

Да гэтага часу ўсе нашы сэкцыі як „Белкохотсаюза“, так і акруговых таварыстваў працавалі самацёкам, г. зн. у іх працы ня было навуковай падставы. Абгаварваемы-ж 1-га красавіка плян працы паляўнічай сэкцыі быў даручан скласьці праф. Фядзюшыну, а таму ў ім адразу адчуваецца навуковая пастаноўка пытаньня. Плян падзяляецца на дзьве часткі: мерапрыемствы па вывучэньні паляўнічае гаспадаркі і мерапрыемствы па арганізацыі паляўнічае гаспадаркі. Усякаму вядома, што без падліку нашага паляўнічага багацьця гаспадарку весьці немагчыма. А таму ў пляне шмат месца займае падлік паляўнічых вучасткаў, паляўнічае фауны, спосабаў паляваньня, колькі здабываецца зьвярыны і птахі і г. д. Кожны паляўнічы павінен зразумець важнасьць падліку, бо толькі пасьля таго, як мы добра вывучым сваю гаспадарку, магчыма будзе правільна і выкарыстоўваць яе багацьце!

Вельмі вялікае значэньне мае барацьба з драпежнікамі і браканьерамі. Браканьеры ўхітраюцца ўчыняць паляваньне рознымі замыславатымі способамі, асабліва на выдру, крата, куніцу, а таму неабходна вывучыць гэтыя спосабы і ўстанавіць, якія з іх можна дапускаць і якія трэба забараніць. Таму гэтаму пытаньню таксама было ў пляне адведзена значнае месца.

Барацьба з драпежнікамі ў нас вялася бяз усякай сыстэмы. Самым страшэнным драпежнікам у нас зьяўляецца воўк. Мы яго зьнішчаем і ўсё-ж колькасна воўк, як гэта паказвае шкода, нанесеная ў гэтым годзе сельскай гаспадарцы, памнажаецца. Барацьбу з воўкам трэба вывучыць і праводзіць сыстэматычна, плянава.

Неабходна скласьці мапу воўчых логаваў, якая дасьць магчымасьць кіраваць камандамі па зьнішчэньні ваўкоў, падлічваць зьнішчаных і на падставе гэтых лічбаў складаць пляны барацьбы з ваўкамі.

У пляне адведзена месца барацьбе з драпежнымі птахамі. Нашы паляўнічыя ня ведаюць, якая птаха зьяўляецца шкоднай? Нярэдка прыносяць у саюз паляўнічых соў, галак, дзятлаў і патрабуюць залічыць за іх адстрэл балы. Для зьнішчэньня такога зьявішча ў плян унесена папраўка аб тым, каб праўленьне „Белкохотсаюзу“ павяло растлумачальную работу праз наш друк.

У разьдзеле „арганізацыя паляўнічае гаспадаркі“ шмат гаворыцца аб тым, як ахоўваць і падкармліваць дзіч і зьвярыну, разводзіць, ператрымліваць узімку, штучна паляпшаць паляўнічыя вучасткі. Заказьнікі і культурныя паляўнічыя гаспадаркі павінны стаць рассаднікам двічы ў раёне. Пэрыодычная зьмена іх з утварэньнем спрыяючых умоў будзе служыць стымулам для распаўсюджаньня дзічы па ўсіх паляўнічых вучастках.

Уся работа па правільнаму вядзенью паляўнічае гаспадаркі павінна праводзіцца на навуковых падставах. Таму пры абгаварэньні пляну выказалася большасьць членаў сэкцыі і амаль - што ўсе са здавальненьнем адзначалі ў пляне новыя мэтады роботы па вядзеньні паляўнічае гаспадаркі.

**С—оў.**

## Вынаходзтва т. Шчэрбы.

У гор. Магілёве ёсьць паляўнічы тав. Шчэрба. Ён шмат працаваў у лепшых расійскіх і замежных аружэйных майстэрнях і мае багаты вопыт па аружэйнай тэхніцы.

У вольны час без належных інструмантаў, у сябе, у хаце, на працягу некалькіх год тав. Шчэрба майстраваў сабе стрэльбу і ў выніку гэтае працы з-пад яго рук вышла двохстволка-ламанка 12-га калібру садачнага тыпу. Асаблівасьць канструкцыі стрэльбы Шчэрбы заключаецца ў тым, што даволі выкруціць адзін шруб і стрэльба разабрана.

Бязумоўна, у тав. Шчэрба ёсьць талент да вынаходніцтва і яго трэба скарыстаць.

Я лічу, што „Белкохотсоюз“ павінен абгаварыць гэта пытаньне і арганізаваць у Менску аружэйную майстэрню, каб пазбавіць паляўнічых зьвяртацца з папраўкай стрэльбы да прыватнікаў, якія „лупяць“ за дробязь вялікія грошы і выкарыстаць багаты вопыт майстра Шчэрбы.

**Свой.**

## Багуцкаму трэба дапамагчы.

Улетку 1928 г. паляўнічым г. Віцебску Шчуплікам быў на паляваньні цяжка паранен паляўнічы Багуцкі. Тав. Багуцкі перанёс у выніку пераненьня некалькі апэрацый, аслабеў і застаўся без нагі. Вінаўнік перажываньняў т. Багуцкага Шчуплік раней абяцаў дапамагчы матэрыяльна Багуцкаму, але стаў адкладваць абяцанкі, прымушаючы жонку Багуцкага ўніжацца, бегаць за яго абяцанкамі.

Быў прад'яўлен іск да Шчупліка і суд прысудзіў на карысьць Багуцкага з Шчупліка 800 руб., але апошні стаў сымуляваць і, каб не плаціць, кінуў працу на заводзе і зараз „падрабляе“ кустарным парадкам. Па настойлівасьці паляўнічых праўленьне Віцебскага таварыства выключыла Шчупліка з саюзу паляўнічых, але-ж ад гэтага ня стала лягчэй пакалечанаму Багуцкаму.

Трэба ўзяцца за гэтую справу прокурору і вырашыць яе канчаткова.

**Ов.**

### Ачышчаем сюаз.

Жмураўская ячэйка Рэчыцкага раёну аб'яднае 23 паляўнічых. На сёнешні дзень, дзякуючы рабоце сельячэйкі, у сельсавеце няма ніводнага браканьера і кулака. Заключана і праводзіцца сацспаборніцтва па ўсіх пытаньнях паляўнічае справы. Усе члены ячэйкі падпісаліся на 3-ю пазыку індустрыялізацыі. Вядзецца культпраца сярод паляўнічых. Арганізаваны куток маладых паляўнічых.

**Клачкоў.**

### Паляўнічыя не адстаюць.

Буда-Кашалёўскі раён калектывізуецца. Ва ўсёй рабоце паляўнічыя зьяўляюцца застрэльшчыкамі. На агульным сходзе вынесьлі пастанову аб уступленьні ў калгас кожным паляўнічым, прымаць актыўны ўдзел у веснавой пасеўнай кампаніі, перавыбарах сельсавету, выяўленьні і зьнішчэньні кулацтва як клясы.

**Каржанеўскі.**

## Удалая аблава.

**(Бялыніцкі раён)**

Два разы ўпаўнаважаны Бялыніцкага раёну пры дапамозе паляўнічых в. Зазер'е рабіў у гэтым годзе аблаву на ваўкоў каля в. Зазер'е і абодвы разы, як нельга лепш, аблавы прайшлі ўдала. Відаць, што ў в. Зазер'е добрыя, дысцыплінаваныя паляўнічыя. Першы раз, улетку, было забіта 4 ваўкі, з іх адзін стары, а астатнія—маладыя.

З наступленьнем зімы ваўкі зноў сталі „жартаваць“. Паляўнічыя самі прасачылі, абклалі трох ваўкоў і бяз аніякіх сьцяжкоў у ліку 14 чалавек, зрабілі аблаву. З трох ваўкоў уцёк толькі адзін, ды і то па неахайнасьці маладога паляўнічага. Апошнія два—воўк і ваўчыца—былі забіты.

Цікава адзначыць, што воўк, забіты паляўнічым в. Зазер'е Яўхімам Ц. з аднаго стрэлу карцеччу 4,0 на якіх-небудзь 50—60 напавал, быў вельмі вялікі. Стары, сівы воўк, з зьедзенымі клыкамі, даўжынёй з канца хваста да вушэй да 2 мэтраў. Гэтага ваўка ледзь вынесьлі з зарасьніку па сьнягу да падводы 4 паляўнічых.

Трэба браць прыклад з зазерцаў, як рабіць аблавы.

**Свой.**

### „Стрэльба“ выданьне барысаўскіх паляўнічых і „Рэчыцкі паляўнічы“.

У рэдакцыю дасланы адбітак насьценнай газэты калектыву барысаўскіх паляўнічых нумар. першы. Трэба сказаць праўду, што барысаўскія паляўнічыя, як відаць, лепш працуюць за менскіх, за гарадзкіх паляўнічых. Пры тым, у Барысаве-ж менш паляўнічых, чым у Менску, а значыць і менш сродкаў.

Гэта залежыць ад таго, што там працаздольнае бюро калектыву паляўнічых, ня ў прыклад нам. Але, бліжэй да тэмы.

Надасланы нам нумар газэты зьмяшчае 14 даволі вялікіх артыкулаў. Праўда, гэтыя артыкулы ня поўнасьцю ахопліваюць жыцьцё паляўнічае каапэрацыі Барысаўскага раёну, але важна—пачын. Газэта добра завастрыла пытаньне сабакагадоўлі, узаемадапамогі паляўнічым, крытыкі і самакрытыкі, барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі, прыродзе і інш.

Газэта цікавая, пачытаць паляўнічаму свайго раёну ёсьць што і калі рэдкалегія зможа пашырыць яе з тым, каб ахапіць усё жыцьцё, то стане вельмі цікавай.

Зараз аб газэце Рэчыцкага калектыву паляўнічых. У № 10 „Паляўнічы Беларусі“ за 1929 г. мы ўжо гаварылі пра гэту газэту і адзначалі тыя недахопы, якія меліся тады ў ёй. Газэта справілася з пастаўленымі перад ёй задачамі і запоўніла прабелы. Зараз яна добра асьвятляе жыцьцё сваёй каапэрацыі ў раёне і тыя палітычныя задачы, якія паставіла перад савецкай грамадзкасьцю кампартыя і савецкая ўлада. Трэба прывітаць работу рэчыцкіх і барысаўскіх паляўнічых.

**М. Я. Цэлеш.**

---

# З газэт і часопісаў.

**Фота-апарат у стральбе.** Гэты апарат дае паляўнічаму магчымасьць праверыць ці пападзе ён пры стральбе. Камера фотоапарата закладаецца пад рулі стрэльбы і дае круглыя здымкі папярэчнікам каля 13 міліметраў. Пабудова камеры зусім простая. Для здыманьня належыць дапасоўваць вельмі далікатныя да сьветавых праменьняў фотапластынкі.

(„Н. і Т.)“.

**Аэроплян для паляваньня на дзіч.** У Амэрыцы ўсё часьцей пачалі ўжываць аэропляны на паляваньнях. Адны і тыя-ж апараты (пераважна—біпляны) дапасоўваюцца і пры разьведках, і пры страляньні, і пры адпраўцы дзічы.

Разьведка ўчыняецца з даволі значнай вышыні, каб шум ня спугнуў дзічыны і каб далей бачыць. Пасадка робіцца плянаваньнем. Забітая дзічына пакуецца і моцна прывязваецца на ніжніх крылах біпляну.

(„Н. і Т.“).

**Падрыхтоўка навуковых працаўнікоў.** У зьвязку з рэарганізацыяй фізыка-матэматычнага факультэту Ленінградзкага дзяржаўнага унівэрсытэту, распрацаваны плян організацыі аддзяленьня вопытнага зьвераводзтва і паляўнічага промыслу. Аддзяленьне будзе падрыхтоўваць навукова-дасьледчых працаўнікоў для паляўнічага промыслу і прамысловага зьвераводзтва.

(„О. і П.“).

**Цецярукі пад хатай.** У лютым месяцы селянінам с. Чорнае, Чарноўскага раёну, Наўгародзкае акругі былі заўважаны пад калідорам хаты дзьве птахі, якія біліся між сабой. Думаючы, што б'юцца пеўні, селянін узяў адну птаху за хвост і адкінуў ў бок. Селянін быў вельмі зьдзіўлены, калі птахі падняліся на крыльлі і паляцелі. Гэта былі два цецярукі, якія невядома чаму заляцелі ў двор, пад хату. Гэты цікавы выпадак сьцьвярджаюць і іншыя сяляне, якія бачылі пабоішча цецярукоў.

(„О. і П.“).

**Нябывалы ўраджай** шэрых курапатак быў у Англіі ў сэзон 1929 г. На адным толькі паляваньні ў Гомпшыры было забіта за 2 дні 3.000 пар гэтай птахі.

Аб нябывалым ураджаі шэрых курапатак паступаюць зьвесткі з усёй Англіі, асабліва Ліверпуля.

Цікава, што найбольш курапатак сустракаецца там, дзе іх менш за ўсё было раней.

(„О. і П.“).

**Запаздалая слонка.** 16 сьнежня ў г. Рыбінску ў жылым двары была злоўлена слонка. Яна ляцела на поўдзень, але абесьсілела і села. Слонка аказалася зусім здаровай птахай.

(„Охотник“).

**Тыгры на возеры Балшах.** У гэтым годзе ў раёне Балшах зьявілася шмат тыграў. У некаторых мясцох яны зусім зьнішчаюць свойскую жывёлу і прымушаюць насельніцтва ўходзіць у больш бясьпечныя мясцы. Асабліва шмат тыграў было ва урочышчы Істай-Тубе і Куйн-Ан.

(„Охотник“).

# Аружэйная тэхніка.

## Паляўнічая стрэльба.

*(працяг)*

### Частка 2-я

Вышэй мы гаварылі, якія бываюць сыстэмы стрэльбаў, як яны набіваюцца і як у іх загараецца набой пораху. Зараз мы пяройдзем да апісаньня сустаўных частак стрэльбаў, якасьці матэрыялу, работы і канструкцыі, ад чаго залежыць у той ці іншай меры бой, прыкладзістасьць стрэльбы і г. д.

*Рулем стрэльбы* называецца трубка, у якой згарае набой пораху і з якой пад націскам парахавых газаў выкідаецца набой шроту ў патрэбным напрамку. Рулі зьяўляюцца галоўнай часткай стрэльбы, бо ад іх моцнасьці залежыць небясьпека пры страляньні, а ад правільнасьці іх вырабу—сіла і вернасьць боя. Матэрыялам для руляй паляўнічых шротавых стрэльбаў служыць у сучасны момант: жалеза, дамаск і сталь.

Жалеза—матэрыял найбольш танны, але-ж і найбольш кепскі для вырабу руляй, як па сваёй моцнасьці, так і па здольнасьці хутка іржавець. Таму ў сучасны момант рулі з жалеза ставяцца толькі ў самых танных стрэльбах.

Апроч таго з прычыны слабасьці матэрыялу, жалезныя рулі трэба рабіць вельмі тоўстымі, а таму цяжкімі ды і то яны прыгодны толькі для малых набояў чорнага пораху.

Некалькі дзесяткаў год назад, калі яшчэ ня ўмелі выраблаць сталі, рулі для паляўнічых шротавых стрэльбаў рабіліся з дамаску, г. зн. з перакручаных, звараных і пракаваных усякім спосабам палосак жалеза і сталі. У сучасны момант найлепшым матэрыялам для руляй зьяўляецца, бязумоўна, добрая сталь, моцная, гнуткая і вязкая.

Такая сталь дае магчымасьць класьці ў рулі вельмі вялікія набоі пораху і шроту і дасягаць такіх вынікаў стрэлу, аб якіх і ня думалі 30—40 год назад, калі рулі стрэльбаў рабіліся выключна з жалеза ды дамаску.

З другога боку, моцнасьць руляй з сталі дала магчымасьць рабіць іх больш тонкімі, ад чаго і ўся стрэльба стала лягчэйшай. З гэтае прычыны сучасныя стрэльбы-ламанкі, ня гледзячы на сваю лёгкасьць, б'юць куды лепш, чымся цяжкія шампалоўкі „славутых“ старасьвецкіх майстраў. Да паказаных вышэй якасьцяй і пераваг сталі неабходна дадаць яшчэ і тое, што яна ня так лёгка паддаецца іржаўчыне, а некаторыя гатункі, як „Польдзі Анцікора“, „Анцікіт“, „Ніросба“ і інш. і зусім не іржавеюць. А гэта вельмі важна.

Такім чынам сталь уступае дамаску толькі ў прыгожасьці, а жалезу—у цане. Добрую сталь выраблаюць шматлікія фірмы. З іх назавем: Вітварт, Сіменс Мартыні, Вікерс, Кокерыль, Леапольд Бернар, Круп, Піпер, Бёлер, Вітэн і, урэшце, вельмі добрую сталь выраблае наш Іжаўскі аружэйны завод. Іжаўская сталь трохі больш паддаецца іржавеньню, чым лепшыя гатункі замежнай сталі, аднак ня ўступае ім па моцнасьці, вязкасьці і пруткасьці.

*Матэрыял руляй* мае вялікае значэньне для моцнасьці і доўгавечнасьці стрэльбы, але зусім аніякага ўплыву ня робіць на бой стрэльбы. Такім чынам, калі рулі прасьвідраваны правільна і не папсаваны, то яны павінны біць добра, незалежна ад таго, ці яны зроблены з дарагой сталі, дамаску, ці з таннага жалеза.

Некаторыя думаюць, што чым даўжэй рулі, тым лепш б'е стрэльба. Гэта тлумачыцца тым, што набой пораху ў кароткіх рулях не згарае поўнасьцю і не дае належнага штуршка шроту, у той час, калі ў доўгіх рулях сіла парахавых газаў будзе выкарастана поўнасьцю, ад чаго і залежыць бой.

Калі порах быў дрэнны, а пістоны слабыя—гэта меркаваньне было правільным. Зараз-жа ў нас ёсьць шмат гатункаў пораху і пістонаў і можна выбраць такі, каб стрэльба біла добра. Таму ў сучасны момант нечага гнацца пры выбары стрэльбы за доўгімі рулямі. Доўгія рулі парушаюць роўнавагу стрэльбы, а таму такія стрэльбы нязручны для паляваньня (ня прыкладзістыя). З гэтае прычыны трэба выбіраць стрэльбу з рулямі не даўжэй за 71—75 сантымэтраў. Рулі больш доўгія падыходзяць толькі да стрэльбаў спэцыяльнага прызначэньня, напр.: для страляньня на вялікія адлегласьці па стадах птах вялікімі набоямі пораху і шроту, дзе вага і роўнавага (балянс) стрэльбы ня мае значэньня.

*Пад калібрам* звычайна разумеюць унутраны папярэчнік канала рулі. У стрэльбах шротавых—калібр вызначаецца колькасьцю круглых куль, выходзячых з аднаго фунта чыстага сьвінца для тае ці іншае рулі. 16 калібр азначае, што для стрэльбы гэтага калібра з аднаго фунта сьвінца можна зрабіць 16 круглых калібарных куль.

Значыць, чым больш лічба, тым меншы папярэчнік рулі. Але ва ўсіх краінах фунты розныя (напр. наш расійскі фунт некалькі менш, чым ангельскі і г. д.), а таксама і таму, што пры вырабе шомпальных стрэльбаў дакладная каліброўка рулі стрэльбы асаблівага значэньня ня мае, нутраны прамер рулі стрэльбаў рознымі майстрамі, у розных краінах робіцца розны.

У сучасны момант пад калібрам стрэльбы звычайна разумеюць надворны разьмер патрона да гэтае стрэльбы. Але з тае прычыны, што надворны прамер гільзы прыблізна адзінакавы заўсёды, а прамер нутраны цалкам залежыць ад таўшчыні сьценак гільзы, то і сапраўдны калібар стрэльбы, патроньнік якой прасьвідраваны пад тонкую медную гільзу, бязумоўна, большы, чым калібар стрэль-

бы, прасьвідраваны пад гільзу таго-ж калібру, але, скажам, папяровую, сьценкі якой куды таўсьцей за сьценкі меднай гільзы.

Такім чынам трэба сказаць, што калібар стрэльбы, якая мае патроньнік пад тонкую медную гільзу будзе большы, чым калібар стрэльбы, прасьвідраваны пад тоўстую медную гільзу, а апошні будзе больш, чым калібар стрэльбы, прасьвідраваны пад папяровую гільзу. Для лепшага бою стрэльбы трэба, каб прамер канала рулі як мага больш адпавядаў нутраному прамеру гільзы, ужываемай у гэтай стрэльбе.

Таўшчыня сьценак рулі вельмі важна як для моцнасьці, так і для боя. Чым таўсьцей сьценкі рулі, тым большая яе моцнасьць і тым лепшы будзе бой. Але празьмерная таўшчыня рулі павялічвае цяжкасьць стрэльбы і робіць яе няяручнай пры страляньні і нашэньні на паляваньні. Таму робяцца сьценкі рулі такой таўшчыні, каб яны маглі вытрымаць самы вялікі ціск парахавых газаў, які можа разьвіцца ў канале рулі. Моц ціску парахавых газаў на сьценкі рулі ў розных мясцох яе бывае розны.

У рулях, якія робяцца чокам або цыліндарам з напорам пажадана, каб таўшчыня сьценак рулі была перад звужэньнем да 1,50 м/м, а пры вылеце да 2,0 м/м.

Вялікае значэньне мае форма і якасьць знадворнай апілоўкі рулі. Звычайна ў стрэльбах шротавых рулі абразаюцца кругла. Пры гэтым апілоўка павінна быць правільнай, сьценкі рулі з усіх бакоў аднолькавай таўшчыні ў хоць якім папярэчным разрэзе. Абрэз рулі павінен быць проста процівалеглым восі рулі. Крыва зроблены абрэз вядзе да таго, што і набой будзе ляцець у бок. Форма абрэза рулі, г. зн. кутком ці накругла абрэзана—ніякага ўплыву на бой стрэльбы ня робіць.

*Сьвідроўка рулі зьяўляецца* аднэй з галоўнейшых прычын, ад якіх залежыць бой стрэльбы. У сучасны момант рулі для шротавых стрэльбаў сьвідруюцца або цыліндарам, або чокам. Сьвідроўка цыліндарам заключаецца ў тым, што папярэчнае сячэньне канала рулі—у любым месцы ад канца патроньніка да абрэза рулі—аднолькава.

Сьвідроўка чок-бор, часьцей называемая проста „чок“ заключаецца ў тым, што руля стрэльбы сьвідруецца ад патроньніка цыліндарам і толькі ў канцы, прыкладам на 5 сант. ад вылета, досыць моцна звужаецца, пераходзячы ў трох сантымэтрах ад дула зноў у цыліндар, але меншага, чым першапачатковы, прамера. Па велічыні звужэньня каналу рулі разьлічаюць поўны чок, паўчок, слабы чок і г. д. Але ўсе гэтыя назвы маюць невялікае значэньне, кожны аружэйнік робіць чокі па свойму, звужаючы рулі на розныя ступені. Чок значна павялічвае кучнасьць боя стрэльбы на адлегласьці ад 40 да 60 крокаў, пры чым велічынёй звужэньня рулі можна рэгуляваць кучнасьць боя стрэльбы.

Сьвідроўка цыліндар—вельмі моцная. Яна дае найбольшую вострасьць боя. У сучасны момант яна сустракаецца вельмі рэдка. Звычайна стрэльбы, якія маюць рулі нібы сьвідраваныя пад цыліндар, у сапраўднасьці маюць сьвідроўку цыліндар з напорам, або з вельмі слабым чокам.

Пры выбары той ці іншай сьвідроўкі раім карыстацца наступнымі паказаньнямі:

1. Цыліндрычная сьвідроўка найбольш забясьпечвае моцнасьць рулі. 2. Цыліндрычная сьвідроўка дае найбольшую вострасьць боя і добрыя асыпі. 3. Цыліндрычная сьвідроўка дапушчае карыстаньне канцэнтратарам Элея і робіць магчымым страляць круглай калібернай куляй. 4. У тых выпадках, калі ад стрэльбы вымагаецца выключна кучны бой на адлегласьці ад 40 да 70 крокаў, належыць карыстацца чокам. 5. Чокавая сьвідроўка дае лепшыя вынікі пры страляньні дробным і сярэднім шротам, чым пры ўжываньні буйных яе нумароў. 6. Чым менш чок і чым менш розьніца ў прамеры канала рулі і чокавага звужэньня (чым слабей чок), тым мацней рулі ў чоках і тым лепшыя атрымліваюцца асыпі. Чокі раптоўныя і вельмі звужаныя даюць павышэньне націску ў канале рулі і паніжаюць вострасьць боя.

Канал рулі павінен быць сьвідраваны зусім роўна і кругла па ўсёй даўжыні яго (апроч чокавага звужэньня). Патроньнік павінен быць простым працягам канала рулі. Дакладнае саўпаданьне прамеру канала рулі і нутранога папярэчнага прамеру той гільзы, пад якую сьвідруецца руля, вельмі важна для добрага боя стрэльбы. Таму патроньнік павінен сьвідравацца зусім дакладна. Гільза павінна вольна ўваходзіць у патроньнік, але і не варушыцца ў ім. Калі патроньнік будзе вельмі шырокі—гільза ў ім будзе лопацца і парахавыя газы пранікаць у патроньнік. Калі за доўгі—то ў момант стрэлу набой і пыж пападуць раней у шырокае, параўнаўча з каналам рулі, месца, а потым у больш вузкае, што выклікае шкодны для боя прарыў газаў у шротавы набой. Калі патроньнік вельмі закароткі, то гільза ў яго ня ўвойдзе. Апроч таго, у такіх выпадках будуць заўсёды пры страляньні прарывацца газы. Паправіць гэты недахоп вельмі цяжка.

Добра прасьвідраваны патроньнік павінен: 1. Мець канты па абадку тых гільзаў, якімі мяркуецца страляць, 2. Павінен быць настолькі шырокі, каб у яго вольна і да канца ўваходзіў набіты патрон. 3. Павінен уяўляць сабой правільна ўсечаны конус, без мясцовых пашырэньняў. 4. Даўжыня патроньніка ні ў якім разе не павінна быць карацей гільзы (не закручана), а для гільз з паперы нават карысьней, калі яна будзе некалькі большай даўжыні, чым патроньнік. 5. Лепшай формай патроньніка зьяўляецца такая, у якой адсутнічае раптоўны пераход ад патроньніка да канала, а патроньнік пераходзіць у канал конусам не карацей 4 і не даўжэй 12 мілімэтраў.

Для таго, каб скончыць з рулямі неабходна сказаць трохі аб іх выпраўленьні. Пагнутыя ці пакрыўленыя рулі ніколі ня могуць даць вернага бою. У аднарулёўках гэты недахоп параўнаўча рэдкі, а ў двух ці шмат рулёвых стрэльбах, асабліва ў танных—звычайны. Пакрыўленьне руль звычайна ўтвараецца пры паяньні іх медзьдзю. Матэрыял для руляй, асабліва высокай якасьці, вельмі чуткі да высокай тэмпэратуры. Таму рулі ў дарагіх стрэльбах часта паяюцца ня медзьдзю, а волавам (пры больш нізкай тэмпэратуры). Каб не разаграваць рулі пры паяньні да іх крукоў, часта крукі і рулі робяцца з аднае балванкі сталі, а то прымацоўваюцца на пазах, а потым прыпайваюцца.

*(Працяг у наступным нумары)*

**Н. М.**

Язэп Вазёрны.

## Аблава.

Цішыня...
Лес маўклівы стаіць...
Усе сьцяжынкі ў нейчых
Сьлядох

І здаецца:
Ў аддалях зьвініць
На балоце ля лесу —
Мох.

І здалёку
Скрыпяць палазы,
Усё бліжэй...
І бліжэй...

Конскі топат.
Золак —
Ціха з усьмешкай
Глядзіць,

Да сябе вабіць
З ласкаю...
Стомай.

Ля балота
Крыніца журчыць
У мажорах крыніца
Крынічыць:

— На аблаву...
Вітаю пачын!
Будзе посьпех
Табе паляўнічы!

Адскрыпелі,
Маўчаць палазы.
Лес маўклівы...
Ізноў цішыня...

. . . . . . .

Зашапталі дубы,
галасы
Усё мацней,
І бліжэй
Зьвіняць:

Мікола Нікановіч.

# ЗЬВЕР.

*(штрыхі).*

Уявеце сабе...
але прасьцей кажучы—не ўяўляйце сабе аніякага зьвера з любога курсу зоолёгіі. Гэта будзе няверна. Тут справа не аб зьверу. Ня думайце, што і мой гэрой—Максім—будзе нешта зьвярынае, або зусім як зьвер. Не.

Уявеце сабе не чалавека, а нешта другое... Хаця пачну зусім з другога канца.

Вёска бедная, саламяная. Сьвітка і лапаць, цэп і газьнічка. Вуліца вясной высыхае ня скора. Толькі ў вялізныя сьпёкі грудзее гразь і тады замест сьвіней—дзеці. Дзеці галапузыя, пузатыя, вялікагаловыя, крываногія (рахітыкі).

Сышліся дахі. Сьпяць у спрадвечнай закасьцянеласьці, чакаюць агню, як авечка доўбні. І агонь—чырвоны певень—вёскі ня мінае. Цераз кожныя два-тры гады паўвёскі—як то кажуць—як карова языком зьліжа.

Хто будзе ратаваць і як будзе ратаваць? Гарыць тады, як мужчыны душацца на полі, за чатыры-тры кілёмэтры ад вёскі на „сваіх“ вузкіх і даўжэзных палосках, калі ў вёсцы адны толькі старыя ды малыя.

Пакуль-жа прыбягуць ды пакуль знойдуць у дзікім бяспамятстве тапор ды вядро. Пажарная дружына?.. Сьмех адзін—гэта-ж толькі ў горадзе.

Тады чорнымі і засмаглымі начамі падымаецца над абугленымі рэшткамі зрубаў, над сьмярдзючымі разваленамі пячэй юдоль стогнаў і прычытваньняў. Ламаюць бабы рукі. Моўчкі, бяз сьлёз, плачуць: гэта ў часы нявыказнага людзкога гора.

Назаўтрае—калі, часамі, не зап'янствуецца—прыяжджае ўраднік, а то і сам земскі. Пагутараць з старастам, яшчэ з кім-небудзь (хто багацейшы) і усё... Тады (гэта на дабро пашло) дапамагае свой вясковы магазын, каб увосень садраць удзесяцера.

І Максім жыў у гэтай вёсцы. І гарэў некалькі разоў і столькі-ж разоў адбудоўваўся. За ўвесь пражыты час аніяк не выдзяляўся з агульнага раду лапцюжнікаў, толькі адно вадзілася за ім аж з самага маленства: усе сьвятошныя дні прападаў на балоце са стрэльбаю. А стрэльба—добрага слова ня варта. Паядынка. Дзе дротам, а дзе і шрубкай, цьвічком перахвачана. Ад дзеда яна яму дасталася як-бы ў спадчыну.

Калі хто пытаў у Максіма аб ёй,—ён заўжды панура адказаў:
— Пудла дае... Жывіць вельмі-ж.

Максім за цэлае сваё жыцьцё і сабакі ня меў. Ні ганчака, ні лягавага. Так, бяз іх абыходзіўся. Прынаравіўся ўжо.

Любіў хадзіць на зайца. Ды чаму-ж не пайсьці. Максім спанятраваў ужо: абы толькі суседні пан з маёнтку выходзіць на паляваньне—Максім ужо на крыжавіцах. Чаму-ж ды не забіць зайца з-пад сабакі.

Але аднойчы наляцеў Максім на свайго.

Тады толькі што пагарэла вёска. Пашлі да пана сяльчане прасіць, маліць, каб „якіх там небудзь бярвенцаў падараваў ці прадаў на істопку“. Тут ужо не да хаты, хаця каб якую варыўню.

Скуп пан. Лета. Кажа:
— Лес, цяпер у мяне, як сьвіран у добрага гаспадара, замкнуты...

Былі сьлёзы. А ці-ж яны дапамогуць? І тады-ж, у знак пратэсту, спляжылі вяскоўцы ў панскім бары... ды хто яго падлічыць колькі. Закаранелая злосьць і сялянская руплівасьць вадзілі рукой мужыка. І каб замесьці сьляды—на пнёх запалілі лаўжы (Лясьніка ўдрызг спалілі). Не разьлічылі добрыя людзі, і цераз ноч загарэлася пушча.

Жывая кроў уначы качалася над лесам. Ружавелі сялянскія шыбы. І ў вяскоўцаў глыбока ў сэрцы была радасьць. Сухастою ў гэту зімку будзе—заваліся.

Наяжджалі ў вёску ўраднік з стражнікамі. Дапытвалі. Сядзелі ў халоднай. А хто гэта выдасьць свайго суседа? Нездабра пашлі ў лес красьці.

— Гэй!
Міхась!
Ты на варце...
Пільнуй!

Не павінен ўцячы
Ад нас воўк!—
...Вецер, вецер,
Ты золка падуй!
Раскідай з гольля,
Срэбраны шоўк!

І з бакоў
Ахапілі лес.
І здаецца:
Ня выйсьці воўку...
— Паляўнічыя!
Здраднік пралез!
Асьцярожнее!
Будзь на-чаку!
І зьвіняць...
І зьвіняць галасы:
— Мы ідзем!
Абавязак свой
Справім!
У зімовага золака стынь,
Паляўнічыя!
Ўсе на аблаву!
Цень ваўка
Мільганула...
Дзе...
Мітусяцца
Па лесу цені...
Паляўнічы
Аблаву вядзе,
Жорстка спаць
„Хоць і мякка сьцеліць“
Стрэл—маланка
Па лесе ляціць...
Воўк завыў...
Гэта значыцца
Ранен.
Лес абуджаны...
Лес шуміць...
У зімовае сьветлае
Раньне.

А балота...
Ці зьнішчыць сьляды?
Ці паўстане прад
Наскаю воляй?..

— Паляўнічы!
Ня будзе бяды,
Калі зробім балота
Мы—полем.

... Мусіць забыўся пан на ўчынак вяскоўцаў, бо ўжо і ладны час прайшоў. Ды думкі другія—няціхота на сьвеце. Вайна. І яшчэ пахне нечым, што хужэй для пана вайны. Ціж да „хамуйлаў“ у такі час. Але чаму-ж ня зьезьдзіць на паляваньне?

Максім на крыжавіцах. Пароша. У ясным сонечным серабрыцца сьвет. На сэрцы лёгка. Дарма, што ўчора быў запіў Максім—сёньня як рукой здымае. Сыплюцца з кашлатых елак дыямэнты і на сонцы гараць як зоры.. Максім думае, цяжка перабірае ў галаве аб зямлянцы, у якой якраз жыве, аб жонцы, аб праклят...

— Ях... ях... ях...

— А-а-а... а... а...

Гэта не сабакі яхкаюць—званы перазваньваюцца. Затрымцела Максімава сэрца. Задрыжэлі рукі. У сярэдзіне раптам зрабілася пуста, нібы ўсё там некуды правалілася. Толькі вочы загарэліся дзіўным агнём.

Разбарсалася абора. Анучына спаўзае з нагі, а ці-ж да гэтага цяпер. Максім—паляўнічы. Максім... Максіма захлынула шостае і самае важнае пачуцьцё чалавека—інстынкт першабытнага чалавека, калі той зьверам, з сукам у валасатых руках падпаўзаў да зьвера... Максіма зараз не спазнаць.

Паядынка калоціцца ў заскарузлых пальцах. Зірк пільна ўеўся ўздоўж сьцежачкі. А тут:

Ях... ях... ях...—усё бліжэй і бліжэй.

— А-а-а... а-а-а...—звонам нясецца па лесе рэха.

Гэта панскія сабакі. Максім добра ведае іх галасы, ведае, што гоніць зайца самая лепшая, самая большая і разумная панская сабака—Галас. Чаму-ж не спазнаць гэты голас? Ня раз ужо біў з-пад яго Максім зайцаў.

І пан ні разу не злавіў яго. А пан і вунь як хацеў злавіць таго сьмелага чалавека, які асьмельваўся біць зайцаў, затраўленых панскімі сабакамі. Пан скрыгаў зубамі.

... Ба-а-ах ..

— Гу-у-у-у...—рэхам гэта.

... ях... ях... ях...

І бачыць Максім—на сьцежку выскачыў шарак і здаровы, як баран. Ляціць аж сьнег ззаду слупам. Потым, як бы закульгаў, сьцішыў ход, суняўся, пацёр лапкай морду і прыслухаўся...

— ях... ях...—званком звоніць Галас.

Кульгае на Максіма заяц. Крокаў дзьвесьці. Менш... менш... Кракнуў замок паядынкі. Ёмка сядзіць зялёнаваты ад цьвілі пістон.

І раптам на сьцежку—Галас... Прыгожая галава трохі апушчана, чорнай стальлю адліваецца на сонцы яго сьпіна. Заяц натужыўся... Вось і зусім блізка...

— ... Біць трэба на штых...—маланкай пранеслася ў Максімавай галаве. Прыціскаецца даўно нябрытая шчака да халоднага бярозавага прыкладу. Жмурыцца вока. Ах, як туга спускаецца сабачка... Мо, нават і ад гэтага дрыжыць, калоціцца руля. Не злавіць мушкі. Вярней—не злавіць на мушку. Заяц зусім тут, пад нагамі... Хутчэй.

У той час, як рашуча дзёрнуўся палец, дзёрнулася і руля і вочы самі-сабою зачыніліся...

— Вуух...—тузанула прыкладам ў пляча і шчаку... Аглушыла. Адчувае Максім, што з яго носу валіць сьмярдзючы, парахавы дым, шчыміць кончык носу і пабальвае. Гэта ад пістону. Ня раз ужо так.

Але што гэта?.. Максім ясна разьлічае не аднатонны звон увушшу, а ёкат, сабачы ёкат... Працёр Максім вочы. „Дзе-ж заяц?..“—у думках. Зайца няма. А крокаў у дзесяці наперадзе качаецца, круціцца Галас, панскі Галас, самы лепшы, самы разумнейшы сабака.

Замест таго, каб шмыгануць у гушчарнік—захаваць нават і сьляды—Максім бліжэй падыйшоў да Галаса і, аслупянеў. На яго выразна, як паміраючы чалавек, чалавечымі вачыма глядзеў сабака... Ёкат ужо быў ціхі, са стогнам.

У Максіма на вачох сьлёзы. Яго сэрца, мужычае сэрца, аблілося нечым такім гарачым. Зашчыміла. Ён кінуўся да сабакі і пачаў гладзіць па галаве... Нешта гаварыў. А сабака—(разумны сабака Галас)—ліжа яго рукі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Стой, а то страляць буду!.. Стой, кажу!..—нехта густа крыкнуў над Максімавым вухам.

# Навукова-прамысловыя ўстановы па рыбнай гаспадарцы.

У галіне навукова-прамысловай работы ў рыбнай гаспадарцы пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі вызначыўся вялікі рух. Так, за апошняе дзесяцігодзьдзе шмат зроблена ў галіне апрацоўкі рыбных прадуктаў. Да гэтага часу амаль ва ўсіх буйных рыбалоўных раёнах праведзены спэцыяльныя падворныя перапісі рыбацкіх гаспадарак. Гэта дасьць магчымасьць вывучыць эканамічную структуру рыбацкае гаспадаркі, без чаго немагчыма скласьці пляну рацыянальнага выкарыстаньня вадаёмаў. Шмат чаго зроблена і для вывучэньня жыцьця нашых галоўнейшых прамысловых рыб. Бясспрэчнай заслугай расійскай навукова-прамысловай думкі зьяўляецца пытаньне ўстанаўленьня кантынгэнту вылаву. Зараз ва ўсіх буйных рыбаводных раёнах пры бліжэйшым удзеле і часткова пад кантролем навуковых установ праводзіцца мэханізацыя промысла здабычы. Па ўсім Саюзе раскінута сетка рыбагаспадарчых інструктароў, лябораторый і станцый. Штогод выдаецца не адзін дзесятак томаў спэцыяльнай рыбагаспадарчай літаратуры, якая закранае самыя рознастайныя бакі рыбнае гаспадаркі Саюзу.

Навукова-прамысловая работа ў галіне рыбнае гаспадаркі*) ва ўсесаюзным маштабе вядзецца двума цэнтральнымі інстытутамі: Інстытутам рыбнае гаспадаркі ў Маскве, заснаваным ў 1922 г. і Аддзелам прыкладнай іхтыолёгіі і навукова-прамысловых дасьледаў Дзяржаўнага Інстытуту вопытнай аграноміі ў Ленінградзе (заснаваны ў 1899 годзе).

У апошні час абодвы гэтыя інстытуты аб'яднаны ў адзін інстытут, які зьяўляецца аддзелам Усесаюзнай сельска-гаспадарчай акадэміі імя У. І. Леніна. Кіруе інстытутам праф. Н. М. Кніповіч. Інстытут рыбнае гаспадаркі ў Маскве зьяўляецца філіялам нанава арганізаванага інстытуту. Да аб'яднаньня гэтых двух інстытутаў першы з іх (Маскоўскі) вёў вялікія работы ў розных раёнах Саюзу як іхтолёгічныя, так і ў асаблівасьці тэхнолёгічныя і эканамічныя. Другі (Ленінградзкі) меў ухіл, галоўным чынам, у бок іхтолёгічных дасьледаў, а па тэхнолёгіі рыбных прадуктаў ім вялася работа ў галіне кансэрваваньня рыбы.

Да гэтага часу Маскоўскім інстытутам рыбнае гаспадаркі выдана 5 тамоў „Трудов". Гэтым-жа інстытутам выдаецца пад рэдакцыяй яго дырэктара В. І. Мэйсьнера адзіная ў СССР часопісь, прысьвечаная выключна пытаньням рыбнага промыслу „Бюлетень рыбнае гаспадаркі" (з 1922 г.). Аддзелам прыкладнай іхтолёгіі ў Ленінградзе выдана 9 тамоў „Известий".

У Касьпійска-Волскім раёне ў сучасны момант працуюць чатыры рыбагаспадарчых навуковых установ: Астраханская навуковая рыбагадоўчая станцыя, якая зьяўляецца старэйшай у нас у гэтым напрамку ўстановай (заснавана ў 1904 годзе, выдана 7 тамоў „Трудов" станцыі). Бакінская іхтолёгічная лябораторыя, заснаваная незадоўга да рэвалюцыі, працуючая галоўным чынам па дасьледваньні паўночнага промыслу ў р. Куры, а зараз і на моры (выдана 2 томы „Известий") і дзьве станцыі ў г. Махач-Кала ў Дагестане: адна пры мясцовым рыбным трэсьце, а другая пры Наркамземе. У Чорнаморска-Азоўскім басэйне працуюць дзьве рыбагаспадарчыя станцыі: адна ў Растове на Дану—Чорнаморска-Азоўская (б. Керчанская) з адзяленьнем у г. Керчы (заснавана ў 1921 г., выдана 2 томы „Трудов") і другая Украінская вопытная іхтолёгічная станцыя ў г. Ачакаве, працуючая ў украінскіх водах (заснавана ў 1921 г., выдана 20 нумар. „Бюлетеня" і 5 тамоў „Трудов"). Невялікія навукова-прамысловыя работы вядуцца ў Чорным моры таксама Новарасійскай біолёгічнай станцыяй імя праф. Арнольдзі.

У паўночных морах—Белым і Баранцовым—працуе рад навукова-прамысловых устаноў. Інстытут па вывучэньні Поўначы (Ленінград), які мае навукова-прамысловую станцыю ў Парчніхе на заходнім беразе Мурмана, аддзел прыкладной іхтолёгіі і за апошні час Дзяржаўны акіянаграфічны інстытут, які ўтварыўся шляхам аб'яднаньня Мурманскай біолёгічнай станцыі ў Александраўску з Плавучым Марскім інстытутам.

Апроч таго ў г. Мурманску працуе лябораторыя Паўночнага рыбнага трэсту, якая працуе пераважна па тэхнічным дасьледваньні. У вялізарным Сібірскім крае існуе пакуль толькі чатыры навукова-прамысловых станцый. Сібірская рыбагаспадарчая станцыя ў г. Краснаярску (заснавана ў 1908 г., выдана 4 тамы „Трудов" і рад іншых выданьняў), якая працуе ў басэйне р. р. Янісея і Обі, Ціхаакіянская навукова-прамысловая станцыя ў г. Уладзівастоку (заснавана ў 1925 г.), Байкальская біолёгічная станцыя і Барабінская лябораторыя ў г. Канску, якая вывучае промыслы на Барабінскіх вазёрах. Мяркуецца арганізаваць навукова-прамысловую станцыю ў г. Якуцку.

Апроч таго прамысловыя работы вядуцца таксама і некаторымі біолёгічнымі станцыямі (напрыклад, Волскай біолёгічнай станцыяй у Саратаве. Вазёрнай станцыяй у Арменіі на о. Гокча і інш.), вышэйшымі вучэбнымі краязнаўчымі ўстановамі і таварыствамі.

**В. Есіпаў.**

*) У сучасны момант пад тэрмінам „рыбная гаспадарка" разумеецца выкарыстаньне ў гаспадарчых мэтах наогул усёй воднай жывёлы і расьлін (рыбы, морскі зьвер, малюскі, водарасьлі і інш.).

---

**Наша задача — разброіць кулака, коопэраваць батракоў, беднякоў і колгасьнікаў.**

Максім і ня зьбіраўся ўцякаць. Ён прыкленчыў над сабакам і з вачэй яго, як-бы, здаецца, цяклі сьлёзы. Моцная рука схапіла Максіма за карак. Другая—аглушыла здаравеннай аплявухай. Максім усхапіўся.

— Гэты ты яго?..—і вусаты пан паказаў пальцам на Галаса. За сьпіною два лёкаі. У пана замест воч—вуглі, вусы—на каўняры.—Гэта ты маіх зайцоў...

— Паночак, я...

— З якой вёскі?..—прасіпеў пан.

— З Каладзішч...

— А-а-а?.. Гэта тыя, хто спляжыў мой лес?.. Падпал?.. Хамы-ы.

— Я зусім ня тое...—язык ня слухае...

— Сабаку майго... Лес... Зьвер ты, мужычо... Га-ах...—і пан сваёй рукою, белаю, панскаю, так толькі, памаленьку, здаецца, выцяў Максіма ручкай рэвольвэра па скроні.

Максім зьбялеў, пахіснуўся і, расьцягнуўся каля самага разумнейшага панскага сабакі. І не пашаваліў больш нічым.

— Падняць галгана!—ціха буркнуў пан.

Лёкаі адвярнулі. Сьнег, і твар як сьнег. Жаўцізна. Каравая барада чорным мохам. У носе засеў кавалачак ад пістону і ад таго, мусіць, сачылася кроў...

— Пане... Хлоп здэх...—спалохана адазваўся адзін лёкай.

— Што вы...

— Так. Ня дыхае.

— Патрэце яго сьнегам...

Ці-ж дапаможа ўжо сьнег?..

Пан набожна перажагнаўся.

Гэта мне расказаў Максымаў сын, заядлы паляўнічы.

# Жыцьцё на мясцох.

**Выдаюць даведкі кулакам** аб залічэньні іх у саюз паляўнічых некаторыя сельсаветы Брагінскага раёну. Такая даведка была выдана кулаку М. П. Іванову з х. Міхайлава, які (кулак) нават высяляўся за межы БССР. Але аб гэтым даведалася міліцыя і ДПУ і, зрабіўшы вобыск, адабрала стрэльбы ў кулака Іванова.

**Сідар.**

**Нядбайна зьвяртаюцца** некаторыя паляўнічыя са стрэльбамі. Так, гр. Чуйко П. Ф. з х. Пацкова, вярнуўшыся з паляваньня, павесіў сваю набітую стрэльбу на сьценку, а пістон ня зьняў. Калі Чуйко вышаў з хаты, яго сямёхгадовы сын дастаў стрэльбу, нацэліўся ў свайго таварыша васьмігадовага хлапчука П. Фядосава, выстраліў і забіў яго напавал. Кожны паляўнічы павінен памятаць, што **пры нядбайным абыходжаньні з сваёй стрэльбай, ён пагражае жыцьцю другіх**

**Энка.**

**Забіта котная зайчыха** 25 лютага ў Пухавіцкім раёне каля в. Прудок. Пры ўскрыцьці былі знойдзены зайчаты вялічынёй з пацука. Гэта гаворыць за тое, што для павялічэньня пушных загатовак паляваньне на зайцаў трэба зачыняць 15 лютага.

**Санчанка.**

**Калектыў паляўнічых Асіпавіцкага раёну вынес пастанову** аб правядзеньні двухдзённіка на пабудову самалёту „Паляўнічы Беларусі“. Пастанову гэту дарučыў правесьці ў жыцьцё райбюро. Але райбюро нічога не зрабіла і ня робіць, бо старшыня Жаўрыд па 4 месяцы бывае ў камандыроўках, а паляўнічую справу закінуў. Такая-ж справа і з насьценгазэтай. Наогул трэба падагнаць да працы Асіпавіцкае бюро калектыву паляўнічых.

**Карцеч.**

**Выключаны з саюзу паляўнічых** за адстрэл у забаронены час куніцы і вавёрак гр. гр. Троцкі К. і Кандрацёнак Н., паляўнічыя Асіпавіцкага калектыву.

**Жаўрыд.**

**Не дачакаўся да 28 ліпеня** паляўнічы Асіпавіцкага калектыву гр. Танковіч Пракоп і ўвечары 27 ліпеня пайшоў „душу адвесьці“ на качак. Бюро калектыву вынесла Танковічу вымову з папярэджаньнем.

**Жаўрыд.**

**Знайшоў малых зайчат** чацьвертага лютага ў аднэй з дзялянак Рэчыцкага лясьніцтва паляўнічы Рыгораў Кузьма. Гэта гаворыць за тое, што адкладваць паляваньне на зайцаў да 15 лютага шкодна.

**Кальцоў.**

**Наглядаўся пралёт галубоў-клекатуноў** 9 сакавіка і качак-крыжняў 10 сакавіка ў Рэчыцкім раёне каля в. Слабады, якія ляцелі з Поўдня на Поўнач.

**Бабін.**

**Наглядаўся пралёт гусей** у Рэчыцкім раёне ад 13 да 15 сакавіка. 12 сакавіка ляцела статка качак-чыронкаў, 13—некалькі крыжняў.

**Бабчонак.**

**Трэба адчыніць заказьнік** ва ўрочышчы Новы Двор, што ў 7 кілёмэтрах ад Слуцку. Мясцовасьць тут вельмі падыходзячая, пакрыта кустамі, маладым ляском. Раней тут пладзіліся лісы, мядзьведзі, ласі, баборы, дзікія козы і шмат дзічы.

**Былінка.**

**Пралёт і прылёт птах у гэтым годзе пачаўся ў сакавіку.** Так, у Слуцкім раёне 8—9 сакавіка прыляцелі жаўранкі. 15—16 сакавіка—гракі. Пралёт гусей і качакназіраўся на некалькі дзён раней, чым летась.

**Былінка.**

**Паляўнічы Дуброўскі Я. высачыў 2 ваўкоў** у Бабруйскім раёне. Сабралася некалькі загоншчыкаў і з 15 стральцоў зрабілі аблаву. Загоншчыкі ішлі добра, але стральцы былі не надзейныя. Калі ваўкі вышлі на лінію стральцоў, дык грукату і дыму было многа, а толку мала. Зрабілі да 30 выстралаў, а ваўкоў і не падбілі.

**Шмялёў.**

**Кепска працуе Журавіцкае бюро** калектыву паляўнічых Магілеўскай акругі. Напрыклад, ня зьнішчаюцца бадзячыя сабакі, якіх у раёне разьвялося шмат. Бегаюць яны па палёх, а забіць страшна, бо прыцягнуць да судовай адказнасьці.

**Трэба растлумачыць закон мясцовай уладзе** аб зьнішчэньні бадзячых сабак ды кошак. Гэта павінна зрабіць бюро калектыву.

Ня менш у нашым раёне і браканьераў. Яны так вольна сябе адчуваюць, што пра білет ня пытайся, бо зараз стрэльбу ў грудзі настаўляе. Гэта паказвае на тое, што бюро калектыву не ў кантакце з міліцыяй. Трэба разброіць кулакоў. Акртаварыства павінна прыняць меры.

**Ягораў.**

**Адчыняе майстэрню** для наладжаньня паляўнічых стрэльбаў Віцебскае акруговае таварыства паляўнічых. Гэта пазбавіць паляўнічых, асабліва вяскоўцаў, пераплачваць прыватным майстрам за наладжаньне стрэльбы.

**Кошка.**

---




**Праф. П. Е. Елагін. „Доходное кролиководство“ Менск 1929 г. выд. „Паляўнічы Беларусі“. Стар. 19. Цана 45 кап.**

Кніжку „Доходное кролиководство“ можна падзяляць на 10 галоўных частак: пароды трусоў, выбар пароды для разьвядзеньня, перавозка, гадоўля, выбар племянных вытворцаў, злучка трусоў, нараджэньне трусянят і іх вырашчваньне, дагляд за трусамі, памяшканьне для трусоў і іх кармленьне, карысьць ад трусоў і іх ворагі і хваробы. Усе гэтыя пытаньні добра растлумачаны ў кніжцы. Частка „Пароды трусоў“ ілюстравана малюнкамі тых парод трусоў, аб якіх гаворыцца ў кніжцы. Добра апісаны хваробы трусоў і іх лячэньне. Вельмі карысныя ўказаньні для трусавода даны па ўтрыманьні, харчаваньні і злучцы трусоў; па вырашчваньні трусянят; па адкорму на ўбой. Нават паказаны самы рацыянальны спосаб убою трусоў. Добра абгаворана карысьць ад трусоў.

Наогул, ня гледзячы на тое, што кніжка разьлічана галоўным чынам на аматара-трусавода, яна зьяўляецца вельмі карыснай і ў вялікіх трусятніках.

У прадмове аўтар кніжкі зьвярнуў увагу на разьвіцьцё трусаводзтва ў іншых краінах і даў лічбы спажываньня мяса трусоў насельніцтвам у вялікіх гарадох Заходняе Эўропы, як Лёндон, Парыж і інш.

У сучасны момант, калі справа трусаводзтва зрушана з мёртвага месца і стала ўкараняцца ў масах, гэта кніжка вельмі карысна для кожнага.

**М.**

**А. Х. Галубчык. „Прыбытковае трусаводзтва". Менск, 1930 г. Выданьне Наркамзему БССР. Стар. 69. Цана 50 кап.**

Кніжка „Прыбытковае трусаводзтва" падзелена на наступныя часткі: 1. **Эканамічнае значэньне гадоўлі трусоў.** Гэта частка дае нарыс таго, якая карысьць атрымліваецца ад трусаводзтва. Як пастаўлена справа трусаводзтва ў асобных краінах. Колькі і дзе ўжываецца трусовага мяса. Прыведзены лічбы ў табліцах. 2. **Паходжаньне свойскага труса**—паказвае бацькаўшчыну дзікага труса, калі ён быў асвоен і наогул дае кароткую гісторыю расплоджаньня трусоў па ўсім сьвеце. 3. **Падзел трусоў на пароды.** У гэтай частцы паказаны найбольш распаўсюджаныя і карысныя пароды трусоў, з паказаньнем некаторых з іх на малюнках, асаблівасьці кожнай пароды, вага, рост, колер і г. д. Тут аўтар спыніўся на значэньні племяннной кнігі, некалькі старонак адвёў для абгаварэньня гадоўлі трусоў, падбору вытворцаў, злучцы, ліняньню трусоў, памяшканьню і тэмпэратуры для іх, кармленьню, сродкам кармленьня, убою, адкорму трусоў, здыманьню скурак, падрыхтоўцы мяса для збыту і інш. Зьмешчаны малюнак памяшканьня для трусоў у племгасе Сеньніца. Паказана клетка. 4. **У частцы „хваробы трусоў і іх лячэньне"**—пералічаны хваробы трусоў, асобных іх органаў, заразьлівыя хваробы, знадворныя хваробы, выкліканыя чужаедамі. Як даглядаць за хворымі трусамі і лячыць іх. У канцы кніжкі даны сьпіс зельля хатняй аптэчкі.

Ня гледзячы на тое, што кніжка кепска выдана з тэхнічнага боку, на дрэннай паперы і мае стылістычныя хібы, яна зьяўляецца зараз, калі трусаводзтва шырока разгортваецца і ўкараняецца ў масы, вельмі карысным дапаможнікам для кожнага трусавода.

Я.

**Б. Ю. Фалькенштэйн. Пытальнік і інструкцыі па абсьледваньні паляўнічае справы ў раёнах паўпрамысловага і аматарскага паляваньня. Пад рэдакцыяй праф. Доппельмайра. Выданьне Ленінградзкага акруговага т-ва краязнаўства на Фінска-Ладзескім перашэйку. Ленінград. 1930 г. Стар. 31. Цана 20 кап.**

Разглядаемы пытальнік складзены спэцыяльна для краязнаўцаў Ленінградзкага раёну, якія жадаюць абсьледваць мясцовы паляўнічы промысел. Аднак гэта кніга дасьць карысьць і іншым раёнам. Кніжка падзелена на дзьве няроўныя часткі: у першай даюцца інструкцыі і сьпіс пытаньняў па паляўнічай гаспадарцы з боку статыстычна эканамічнага, у другой—аб біолёгічных зборах і калекцыях па прамысловай фауне. У першай частцы праведзена пяць пытальнікаў з тлумачэньнямі, якія ахопліваюць абсьледваньне паляўнічай арганізацыі, заказьніка, дзе ёсьць паляўнічы элемэнт, асобных гаспадарак паляўнічых і урэшце, пытальнік для збору вестак культурна-бытавога характару. Па біолёгічнай частцы каротка паведамляецца аб тым, за чым назіраць і што вывучаць і зьбіраць. У канцы прыведзены сьпіс галоўнейшай літаратуры па паляваньнязнаўству.

В. Е.

**М. Зьвераў. Праграма-інструкцыя па вывучэньні сысуноў (млекопитающих). Сібкрайвыдавецтва. Новасібірск, 1929 г. Стар. 32 з малюнкамі. Цана 20 к.**

Хоць кніжка, выданая бюро краязнаўства пры таварыстве вывучэньня Сібіру, і прызначана менавіта для гэтага краю, яна ўсё-ж будзе вельмі карысна для аматараў прыроды і паляўнічых іншых раёнаў. Цікава частка аб біолёгічных назіраньнях над дзікімі сысунамі—вывучэньне сьлядоў, вывучэньне нор, пававак, мэтады кальцаваньня. Апошнія дзьве часткі прысьвечаны апісаньню самога збору калекцый сысуноў, іх апрацоўцы, захаваньню і апрацоўцы скур буйных зьвяроў. У канцы даданы сьпіс літаратуры, складзены з 21 назвы. Кошт кнігі даступны масаваму чытачу. Выдана яна даволі добра.

В. Е.

**Д. К. Салаўёў. Асновы паляўніцтва. Частка V. Выданьне „Новая деревня" М.-Л. 1929 г. Стар. 903—1062. З малюнкамі ў тэксьце. Цана 2 р. 75 к.**

Апошняя пятая частка капітальнае і адзінае, можна сказаць, працы Д. К. Салаўёва зьяўляецца, як гаворыць аўтар у прадмове, канцом агульнага курсу паляўніцтва, у якасьці асобнай науковай дысцыпліны. Яна складаецца з наступных частак: вывучэньне паляўнічае справы, у якой даецца кароткі нарыс гісторыі навукова-дасьледчай дзейнасьці паляўнічай гаспадаркі ў Расіі і СССР, гісторыя паляўнічай літаратуры і паляўнічай адукацыі, промысел зьвяроў на моры, паляваньне ў іншых краінах. Урэшце, вельмі каштоўнай часткай кнігі зьяўляецца бібліяграфічны паказальнік усёй паляўнічай літаратуры рэволюцыйнага часу і важнейшай—дарэвалюцыйнага, дадзены ў канцы.

В. Е.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Антону Зорскаму**—ваш верш ня пойдзе таму, што на расійскай мове. Папрабуйце пісаць на беларускай. **Касьцючэнку, Яўгенію Зэмэрфэльду, Дворыну Саламону, Качану**—вашы вершы ня пойдуць. Слабыя і неапрацаваныя. Пішэце кароценькія артыкулы з жыцьця паляўнічае коопэрацыі, з паказаньнем фактаў. **Кадышу**—ваша апавяданьне **„Па першым сьняжку"** зьмясьціць ня зможам. Мала мовы, кепскі стыль. Пішэце лепш артыкулы з жыцьця коопэрацыі. **Кісялёву Я. В.**—ваш ліст накіраван належным органам для прыняцьця адпаведных мер. **Сідарэнку, Залецілаву**—ня пойдзе, дробязь.

**Ч. Першабытнаму**—„О разногласии стариков-гончатников" ня пойдзе. Гэта пытаньне дакладна абгаворана на старонках іншых часопісяй. **Бабчонку**—„Адказ тав. Хадаронку"—ня пойдзе. Аб гэтым пісалася ў № 2 „Паляўнічы Беларусі". **Вяч. Палескаму, Васіковічу, Казлоўскаму, Яўг. Зэмэрфэльду, Вітко, Ц. Былінку**—вашы вершы ды апавяданьні не падыходзяць. **Былінку**—„Адказ тав. Хадаронку" ня пойдзе. Быў дадзены адказ на гэту тэму ў № 2 „П. Б.". У артыкуле „Бярэце прыклад" нічога каштоўнага і канкрэтнага нямэ. **Красу Н.** „Любительское рыбоводство"—ня пойдзе. Зараз такое рыбаводзтва прывіцца ў нашай гаспадарцы ня можа. **Лясовічу І.** „Паляўнічы павінен быць у першых шэрагах"—ня пойдзе. Няма нічога канкрэтнага і аб гэтым ня раз пісалася.

# Паляўнічы, выпісвай, чытай і распаўсюджвай сваю часопіс!

Рэдкалегія: Р. Сільнікаў, П. Тамашэўскі, М. Шмідт. *Адказны рэдактар:* **Міх. Шмідт.**

ЦАНА 30 КАП.

# АДКРЫТА ПАДПІСКА

4-ты год выданьня

## на 1930 год

4-ты год выданьня

НА ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ТЭОРЫІ І ПРАКТЫКІ

Орган „БЕЛКОХОТСОЮЗА“

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ шырока адбівае пытаньні аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі, працу ахоткаапэрацыйн. арганізацый Беларусі і жыцьцё на мясцох

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дапамагае правільнаму вядзеньню паляўнічай гаспадаркі, зьверагадоўлі, сабакагад. і г. д.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ адбівае пытаньні барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць чытача з жыцьцём і норавамі жывёлы

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць сваіх чытачоў з паляваньнем за граніцай

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дае парады чытачом і зьмяшчае афіцыйныя пастановы і распараджэньні Ўраду, якія маюць сувязь з пытаньнем паляваньня

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ асьвятляе больш важныя палітычныя пытаньні краіны

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ садзейнічае разьвіцьцю кроўнай сабакагадоўлі і палепшаньню прамысловае сабакі

**У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ ЛЕПШЫЯ НАВУКОВЫЯ СІЛЫ БЕЛАРУСІ, А ТАКСАМА НАВУКОВЫЯ СІЛЫ ІНШЫХ РЭСПУБЛІК, ПРАКТЫКІ ПАЛЯЎНІЧАЙ КААПЭРАЦЫІ, ПІСЬМЕНЬНІКІ, БЭЛЕТРЫСТЫ і г. д.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:



На год . . . . . . . . 2 руб.
На 9 месяцаў . . . . 1 „ 50 к.
На паўгода . . . . . 1 руб. 20 кап.
„ 3 месяцы . . . . . . 70 „

**УСЕ ГАДАВЫЯ ПАДПІСЧЫКІ КАРЫСТАЮЦЦА 15% СКІДКАЙ НА ЎСЕ ВЫДАНЬНІ „БЕЛКОХОТСОЮЗА“**

**„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ на 1930 г. З ДАДАТКАМІ 2х КНІЖАК:**

**3 р. 50 к.**
1) **Проф. А. В. Федюшин**—*Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР* . . . .
2) **Проф. Елагин** —*Доходное кролиководство* . . .
**на год**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, усіх райбюро калектыву саюзу паляўнічых, акруговых праўленьнях і ў ЦП Белкахотсаюзу (г. Менск, Савецкая, 71).

Галоўлітбел № 1786. у ліку 17.500 экз. Менск, друк. БДВ, зак. № 1666.